Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

25 ЧЭРВЕНЯ 1929 г.

№ 6 (65)

V-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929

# З Ь М Е С Т

---

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### пра забясьпечаньне будаўніцтва тэхнічнымі кадрамі.

З мэтаю забясьпечаньня будаўніцтва тэхнічнымі кадрамі і ўзмацненьня падрыхтоўкі тэхнічнага пэрсаналу, Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Улічваючы вялікі дэфіцыт сярэдня-тэхнічнага пэрсаналу на будаўніцтве, лічыць мэтазгодным цалкам скарыстаць на будаўніцтве ў гэтым годзе надыходзячы выпуск тэхнікаў у Менскім Політэхнікуме, для чаго прапанаваць будаўнічым і будуючым арганізацыям загадзя замацаваць за сабою адпаведную колькасьць тэхнікаў. Апроч таго, прыняць меры да скарыстаньня студэнтаў-практыкантаў з вышэйшых тэхнічных навучальных устаноў.

2. Нехапаючую колькасьць дзесятнікаў папоўніць з ліку студэнтаў-практыкантаў Менскага Політэхнікуму і курсантаў Менскіх прафэсіянальных курсаў, дзеля чаго абавязаць будаўнічыя і будуючыя арганізацыі сваечасова замацаваць за сабою патрэбную колькасьць іх у якасьці дзесятнікаў.

3. Прапанаваць НК Асьветы: а) павялічыць прыём студэнтаў у Менскі Політэхнікум на наступны 1929-30 навучальны год і б) паскорыць распрацоўку пляну арганізацыі сеткі школ дзесятнікаў для будаўнічых работ і ўключыць у бюджэт 1929-30 году выдаткі на гэтыя школы.

4. Даручыць НК Асьветы разам з НК Працы ўзмацніць агульнае кіраваньне і кантроль у справе падрыхтоўкі кваліфікаванай рабочай сілы для будаўніцтва (у школах дзесятнікаў, вучнёўства на будаўнічых работах і г. д.).

5. Абавязаць будаўнічыя арганізацыі сваечасова падаваць свае заяўкі на студэнтаў-практыкантаў і ўжываць сыстэму кантрактацыі студэнтаў вышэйшых курсаў вышэйшых тэхнічных школ.

6. Прапанаваць будаўнічым арганізацыям больш запрашаць патрэбных ім інжэнэраў з іншых рэспублік Савецкага Саюзу, асабліва спэцыялістаў па ацяпленьню і вэнтыляцыі.

Старшыня Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР *М. Карклін.*

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай
Нарады пры СНК БССР *В. Крывіцкі.*

6 мая 1929 г.
г. Менск.

---

## 2. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

**пра зьмены абежніку НК Земляробства за 22/VI-1927 г. за № 28 „Пра ўстанаўленьне гранічных норм працоўнага землякарыстаньня для асобных сялянскіх гаспадарак“ (арт. 94 Зям. Код.).**

*Усім Акруговым Зямельным Аддзелам.*

З мэтаю стварэньня лепшых умоў для разьвіцьця калектыўных форм сельскай гаспадаркі, а таксама для большага забясьпечаньня зямлёю маламоцнага і серадняцкага насельніцтва, Народны Камісарыят Земляробства БССР, на зьмену п. 1 і 9 свайго абежніку за 22/VI-1927 г. за № 28, прапануе кіравацца наступным:

1. Устаноўленыя п. 1 памянёнага абежніку максымальныя нормы працоўнага землякарыстаньня зьмяніць, устанавіўшы на далей наступныя параённыя максымальныя нормы землякарыстаньня на двор з 4-мя працоўнымі адзінкамі ў гэкт.

| №№ сел. гас. раён. | Максымальныя нормы (найбольшыя) |
|---|---|
| 1 | 8,5 |
| 2 | 9,0 |
| 3 | 11,0 |
| 4 | 12,0 |
| 5 | 13,0 |

Мінімальныя нормы працоўнага землякарыстаньня застаюцца ранейшыя.

2. Зямельны фонд, які атрымліваецца пры выняцьці лішкаў зямлі ад шматзямельных гаспадарак, перадаецца ў распараджэньне зямельных органоў і скарыстоўваецца апошнімі:

а) на павялічэньне землязабясьпечаньня калгасаў;

в) на надзяленьне безьзямельных і малазямельных гаспадарак.

Дзейнасьць гэтага абежніку не пашыраецца на ўсе тыя земляўпарадчыя справы ( як пачатыя ў гэтым годзе, так і ў мінулыя гады), па якіх праекты ўжо складзены.

Народны Камісар Земляробства *П. Рачыцкі.*

Кіраўнік Групы Земляўпарадкаваньня *В. Вірын.*

18-га мая 1929 г.
№ 8.

---

## 3. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

**пра адмежаваньне і расплянаваньне сядзібных пляцоў пры гаспадарчым упарадкаваньні мястэчак гарадзкога тыпу.**

У зьвязку з пастановаю Савету Народных Камісараў БССР за 14 лістапада 1928 г. аб неабходнасьці пляніроўкі мястэчак, у якіх праводзіцца гаспадарчае ўпарадкаваньне, і з прычыны таго, што правілы пляніроўкі гарадоў і мястэчак да гэтага часу яшчэ не распрацаваны, выдаецца гэтая інструкцыя ў дадатак да існуючых правіл расплянаваньня і забудоўкі сяленьняў БССР.

## 1. Адмежаваньне местачковай тэрыторыі.

1. Адмежаваньне местачковай тэрыторыі праводзіцца ў агульным парадку, які ўстаноўлен для адводу зямель гародаў.

2. Пры складаньні праэкту адводу местачковай тэрыторыі трэба мець на ўвазе неабходнасьць забясьпячэньня мястэчка зямельнаю плошчаю для павялічэньня маламерных пляцоў, пашырэньня плошчы для новай забудоўкі, адводу месц для грамадзкага карыстаньня (рынкі, сады, пляцы) і грамадзкіх будынкаў (школ, клюбаў, бальніц, устаноў, фабрык і інш.), а таксама для забясьпечаньня пашаю; у залежнасьці ад мясцовых умоў трэба таксама адвесьці невялікія лясныя вучасткі выключна для грамадзкага карыстаньня, для адпачынку і гігіенічных патрэб.

3. Запасныя тэрыторыі для пашырэньня забудоўкі адводзяцца:

а) з разьліку натуральнага прыросту насельніцтва, якія па данных перапісу 1926 г. можна прыняць у 2,5% за год, улічваючы толькі тое насельніцтва, якое там застанецца ў выніку земляўпарадкаваньня;

б) з разьліку прыросту насельніцтва, выходзячы з магчымасьцяй прамысловага разьвіцьця данага мястэчка. Запасныя тэрыторыі павінны быць адведзены на 25 гадоў.

4. Пашы (выганы) адводзяцца, калі гэта будзе магчыма, з разьліку па аднэй галаве жывёлы на незямляробчую сям'ю, пры гэтым паша можа быць адведзена і ня ў местачковай мяжы. Апроч таго прымаюцца пад увагу інтэнсыўныя формы скарыстаньня выганаў.

5. Уся зямельная тэрыторыя местачковага адводу, у тым ліку і запасныя тэрыторыі для забудоўкі, пляцы грамадзкага карыстаньня, выганы, інш. перадаюцца органам камунальнай гаспадаркі РВК, якія карыстаюцца гэтай тэрыторыяй на падставе палажэньня аб зямельных парадках у гарадох. Пляцы на незабудованых тэрыторыях аддаюцца грамадзянам на правох забудоўкі.

6. Колькасьць зямель, патрэбных для адводу мястэчка, вызначаецца земляўпарадчыкам разам з акруговым інжэнэрам на падставе арт. арт. 2, 3 і 4 гэтай інструкцыі.

## II. Пра нормы сядзібных пляцоў.

7. Нормы сядзібных пляцоў для неземляробчага насельніцтва ўстанаўляюцца органамі камгасу разам з местачковым саветам і зацьвярджаюцца Прэзыдыумам Райвыканкому (пункт 12-ы інструкцыі Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Земляробства за 11/XI-1926 г. (Бюлетэнь СНК БССР за 1927 г. № 1, стар. 8)— у гэтай часьці адмяняецца). Размер гэтых норм вызначаецца ў залежнасьці ад наяўнасьці зямельнага запасу пры даным мястэчку і павінен быць магчыма большым і ва ўсякім разе нормы гэтыя ня могуць быць меншымі мінімальных, устаноўленых п. п. 7—9 тае самае інструкцыі.

Нормы сядзібных пляцоў для тых груп насельніцтва, якія надзяляюцца дапаможнымі зямельнымі вучасткамі (паводле распарадж. НКЗ за 6/IV-28 г.) устанаўляюцца ў тых самых разьмерах, як і для неземляробчага насельніцтва.

8. Для тых земляробчых двароў, якія не высяляюцца за местачковую мяжу, калі гаспадарчыя будынкі іх разьмешчаны ў местачковай мяжы, максымальная норма сядзібных пляцоў можа быць устаноўлена ў разьмеры, паказаным у арт. 33 пастановы СНК БССР за 21 ліпеня 1926 г., „Пра правілы расплянаваньня і забудоўкі сяленьняў БССР"

(З. З. БССР 1926 г. № 34, арт. 128). Мінімальныя нормы пляцоў для гэтых гаспадарак павінны быць ня менш 3000 кв. мтр. пры шырыні па вуліцы 30 мтр, і глыбіні 100 мэтраў, пры гэтым адлегласьці паміж будынкамі павінны быць ня менш тых, якія ўстаноўлены арт. 35 Правіл расплянаваньня і забудоўкі сяленьняў БССР.

### III. Пра пляніроўку мястэчак.

9. Да таго часу, як будуць апублікаваны правілы пляніроўкі гарадоў і мястэчак, трэба кіравацца пастановаю СНК БССР за 21 ліпеня 1926 г. (З. З. БССР 1926 г. № 34, арт. 128) „Пра правілы расплянаваньня і забудоўкі сяленьняў БССР“ з наступнымі зьменамі:

#### а) Агульныя паказаньні.

10. Выбар месца для кварталаў новай забудоўкі робіцца паводле арт. арт. 6—10 Правіл расплянаваньня сяленьняў з абавязковым удзелам прадстаўнікоў ад органаў камунальнай гаспадаркі, ад местачковага савету і прадстаўніка санітарнага нагляду.

11. Пры складаньні праэкту пляніроўкі новых кварталаў і перапляніроўкі існуючай часткі мястэчка трэба кіравацца арт. арт. 20—32, 61, 62 і 66 правіл расплянаваньня сяленьняў з наступнымі зьменамі:

1) Да арт. 20—Пры перапляніроўцы існуючай часткі мястэчка даўжыня кварталу можа быць і больш 250 мтр., але ў выніку падзелу кожны квартал павінен мець даўжыню ня менш 200 мэтраў.

2) Да арт. 21—Артыкул гэты ўжываецца толькі для новай часткі, якая падлягае забудоўцы.

3) Да ўвагі арт. 22—Шырыня завулкаў павінна быць ня менш 8-мі мэтраў.

12. Калі паводле праэкту пераплянаваньня будынкі, або граніцы паасобных пляцоў выходзяць за чырвоную лінію (арт. 66 Правіл расплянаваньня), то тэрмін пераносу будынкаў і перамяшчэньня граніц пляцоў працягваецца да таго часу, пакуль будынкі струхлеюць, пры гэтым праводзіць капітальны рамонт і перабудоўваць будынкі не дазваляецца.

13. Пры дабравольным жаданьні землякарыстальнікаў сядзібныя пляцы могуць быць са згоды органаў камгасу праведзены раней тэрміну, устаноўленага арт. 12. У такім выпадку землякарыстальнікі ўстанаўляюць паміж сабой разьмер кампэнсацыі за матарыяльныя страты, якія выклікаюцца зломкай і перасоўваньнем жылых і іншых будынкаў, забраньнем апрацованай зямлі і садовых насаджэньняў, студняў і за іншыя страты, зьвязаныя з перайначаньнем граніц сядзібных вучасткаў.

14. Расцэнка пералічаных у папярэднім артыкуле нескарыстаных затрат робіцца старанамі або іх прадстаўнікамі пад кіраваньнем земляўпарадчыка з удзелам сьвядомых асоб і прадстаўнікоў мясцовых грамадзкіх арганізацый.

15. Пры складаньні праэкту пераплянаваньня сядзібных месц земляўпарадчык павінен выявіць усіх землякарыстальнікаў, якія жадаюць ажыцьцявіць праэкт пераплянаваньня раней тэрміну, паказанага ў арт. 12-ым і пры ўдзеле зацікаўленых старон выявіць разьмеры страт і кампэнсацыі.

16. На расплянаваньне сядзібных месц мястэчак складаецца асобны праэкт у пісьмовай форме (апроч агульнага земляўпарадчага праэкту).

У праэкце гэтым павінна быць прадугледжана: а) забарона капітальнага рамонту будынкаў, якія прызначаны да зносу і перасоўваньня; б) забарона будаваньня новых будынкаў на тых мясцох, якія па праэкту пераходзяць да іншых землякарыстальнікаў або пад грамадзкія патрэбы; в) умовы кампэнсацыі і тэрміны, якія са згоды старон устанаўляюцца да зносу і перасоўваньня будынкаў; г) забарона займаць якімі небудзь будынкамі месцы грамадзкага карыстаньня, вуліцы, завулкі, пляцы і інш.

17. Парадак і тэрмін перасоўваньня будынкаў грамадзкага карыстаньня ўстанаўляецца са згоды адпаведных ведамстваў.

18. Праэкт адводу местачковай мяжы падаецца зацікаўленым старанам аднначасова з агульным групавым праэктам земляўпарадкаваньня і разглядаецца аднначасова ў зямельных камісіях. Праэкт распляваньня мястэчак падаецца местачковаму савету і зацікаўленым грамадзянам у прысутнасьці Прэзыдыуму Райвыканкому, які яго разглядае ў парадку першае істанцыі. Канчаткова зацьвярджае праэкт распляваньня Прэзыдыум Акруговага Выканаўчага Камітэту.

**б) Пра пляны.**

19. Па кожнаму мястэчку складаюцца наступныя пляны:

1) агульны плян землякарыстаньня мястэчка, сумесна з сельска-гаспадарчымі землямі, на які наносіцца і праэкт адводу сядзібнай мяжы мястэчка ў маштабе 1/5000 альбо 1/10000;

2) плян існуючага разьмяшчэньня сядзібнай часткі мястэчка ў маштабе 1/1000 з нанясеньнем на гэты плян чырвонай тушшу праэкту пераплянаваньня вуліц, кварталаў, сядзіб і плошчаў грамадзкага карыстаньня. На гэты плян таксама трэба нанесьці праэкт распляваньня сядзібных месц на плошчы, якая запраэктавана для пашырэньня мястэчка.

20. На агульным пляне землякарыстаньня мястэчка паказваецца: а) местачковая мяжа, якая ўстаноўлена ў выніку земляўпарадкаваньня б) забудаваная частка мястэчка без нанясеньня будынкаў і граніц паасобных сядзіб, але з паказаньнем усіх існуючых вуліц і пераездаў, в) частка, якая праэктуецца для пашырэньня мястэчка пад забудоўку без нанясеньня праэктных вуліц і пераездаў (агульны контур праэктуемай часткі), г) землі сельска-гаспадарчага значэньня з паказаньнем граніц паасобных ужыткаў, д) тыя тапаграфічныя і інш. асаблівасьці, якія звычайна зьмяшчаюцца на земляўпарадчых плянах і е) праэкт групавога ўпарадкаваньня зямель сельска-гаспадарчага прызначэньня.

21. На пляне існуючага разьмяшчэньня сядзібнай часткі паказваецца апроч таго, што пералічана ў арт. 20, наступнае: 1) усе жыльлёвыя і асноўныя гаспадарчыя будынкі і граніцы паасобных сядзіб, 2) тапаграфічныя асаблівасьці мясцовасьці: равы, вазёры, і інш.; 3) лясы; 4) розныя штучныя пабудовы і будынкі: масты, грэблі, канавы, узьбярэжжы, шляхі, млыны, заводы, фабрыкі, каменьняломні, прыстані і станцыі, грамадзкія будынкі, асэнізацыйныя палі, сады, могілкі і інш. падрабязнасьці, якія па мясцовых меркаваньнях будзе мэтазгодна адзначыць і 5) лініі разьліву вод на тэй частцы пляну, якая паказвае плошчу пашырэньня мястэчка, наносяцца праэктныя кварталы, вуліцы, праезды і інш., з нанясеньнем паасобных праэктных сядзіб.

22. З пляну распляваньня здымаецца копія на кальцы, але без нанясеньня існуючага разьмяшчэньня сядзібнай часткі, а толькі праэкт будучых сядзіб, як на існуючую частку, так і на праэктуемую.

23. Да пляну сядзібных месц мястэчка дадаюцца дзьве ведамасьці: адна для існуючага разьмяшчэньня сядзіб, а другая для праэктнага разьмяшчэньня, альбо адна камбініраваная ведамасьць.

24. Улічваючы тэхнічныя асаблівасьці працы пры здымцы і пляваньні мястэчка, для гэтага будзе выдана тэхнічная інструкцыя (альбо асобны разьдзел у агульнай тэхнічнай інструкцыі).

25. Інструкцыя гэта ўзгоднена з Камітэтам па будаўніцтву пры ЭКАНА БССР 4-га лютага 1929 г. № 178.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў *Я. Кроль.*

9 мая 1929 г.
№ 13314.

---

## 4. Загад Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

### пра абвяшчэньне палажэньня пра правы і абавязкі цэхавай адміністрацыі прадпрыемстваў ВСНГ БССР.

Абвяшчаючы пры гэтым зацьверджанае Прэзыдыумам Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР 17-га мая г. г. (прат. № 32, п. 24) палажэньне пра правы і абавязкі цэхавай адміністрацыі прадпрыемстваў ВСНГ БССР, прапануецца дапасаваць да гэтага палажэньня раней выдадзеныя трэстамі палажэньні пра правы і абавязкі цэхавай адміністрацыі.

*Дадатак:* Палажэньне.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *Баль.*

Сакратар Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *А. Лучышын.*

20-га мая 1929 г.
№ 175.

*Дадатак.*

## Тыпавае Палажэньне пра правы і абавязкі цэхавай адміністрацыі прадпрыемстваў ВСНГ БССР.

### I. Агульнае палажэньне.

1. Гэтае палажэньне пашыраецца на працаўнікоў цэхавай адміністрацыі: а) загадчыкаў цэхаў (аддзелаў) і адпаведных ім: старэйшых майстраў (інструктароў), цэхавых майстраў (інструктароў), зьменных майстраў і інш. і б) вытворчых майстраў, інструктароў, памочнікаў цэхавых інструктароў і інш.

*Увага.* Палажэньне пра правы і абавязкі ніжэйшага адм.-тэхніч. пэрсаналу (брыгадыраў, дзесятнікаў, памочнікаў вытворчых майстраў, старэйшых рабочых і інш.) распрацоўваюцца трэстамі ў адпаведнасьці з гэтым палажэньнем з паданьнем ім найбольш самастойнасьці і адказнасьці за даручаную працу і працоўную дысцыпліну ў падпарадкаванай частцы прадпрыемства, аслабаняючы іх ад лішняй канцэлярскай работы і ўзмацняючы іх працу па выкананьню вытворчых заданьняў.

## II. Правы і абавязкі загадчыкаў цэху (цэхавых майстраў і інш. адпаведных працаўнікоў).

2. Загадчык цэху (цэхавы майстар і інш. адпаведны працаўнік) кіруе ўсёй адм.-тэхнічнаю і гаспадарчаю працаю цэху (аддзелу, прадпрыемства) і ў паасобку на яго ўскладаецца;

а) выкананьне распараджэньняў дырэкцыі прадпрыемства, інструкцый і заданьняў вышэйшых органаў, законных распараджэньняў асоб, якім непасрэдна падпарадкоўваецца загадчык цэху;

б) арганізацыя вытворчых працэсаў, разьмеркаваньне работы, расплянаваньне прыладаў вытворчасьці, устанаўленьне спосабаў вырабу, апрацоўка і інш. і ўстанаўленьне чарговасьці апэрацый;

в) кіраваньне работаю па вытворчасьці ў напрамку павялічэньня выпуску прадукцыі, палепшаньне яе якасьці і зьніжэньне сабекошту;

г) нагляд за захоўваньнем у цэху ўстаноўленых норм запасаў сырцу, фабрыкатаў, матарыялаў і інш.;

д) нагляд за эканомным і мэтазгодным выдаткаваньнем сырцу, матарыялу, энэргіі, апалу, рабочай сілы.;

е) нагляд за скарачэньнем процантаў браку і захоўваньнем адпаведных норм цэхавых выдаткаў і крэдытаў па асобных заказах;

ж) падрыхтоўка даных для ўстанаўленьня вытворчай праграмы цэху, прапрацоўка норм тэхнічных каэфіцыэнтаў, колькасных і якасных пакавчыкаў і цэн, норм выдаткаваньня сырцу, апалу, энэргіі, тэрмінаў выкананьня вытворчай праграмы, разьмераў цэхавага і каштарыснага сабекошту, у адпаведных-жа выпадках распрацоўка вытворчай праграмы цэху;

з) нагляд за выкананьнем зацьверджанай вытворчай праграмы, распрацоўка належных заявак па задавальненьню цэху сырцом, паўфабрыкатамі, рабочай сілай, прыладамі і інш.;

і) нагляд за бесьперапынным ходам вытворчасьці і правільнай загрузкай абсталяваньня, варштатаў і рабочых;

к) нагляд за скарачэньнем прастояў, за правільным іх падлікам, за аховаю ў належным становішчы тэхнічнага абсталяваньня цэху;

л) дача ў межах зацьверджаных праграм і каштарысаў заказаў і патрабаваньняў у іншыя часткі прадпрыемста для адпаведнага рамонту, для выкананьня дапаможных работ, папаўненьня неабходных запасаў і г. д. і нагляд за сваечасовым выкананьнем гэтых патрабаваньняў і заказаў;

м) нагляд за правільным скарыстаньнем агароджаў і інш. забясьпечваючых сродкаў, за сваечасовым іх рамонтам і за выкананьнем устаноўленых правіл тэхнікі бясьпекі і аховы працы;

н) нагляд за азнаямленьнем рабочых з абсталяваньнем, устаноўленымі агароднымі прыладамі;

о) нагляд за выкананьнем правіл вытворча-працоўнай дысцыпліны паводле правіл унутранага распарадку;

3. У адпаведнасьці з ускладзенымі на загадчыка цэху абавязкамі ён адказвае:

а) за перавышэньне процанту браку па цэху звыш нормальнага;

б) за пагоршаньне якасьці прадукцыі і перавышэньне яе сабекошту;

в) за паменшаньне працоўнай дысцыпліны ў цэху;

г) за прастой у рабоце з прычыны няправільнага скарыстаньня рабочай сілы;

д) за несваечасовую падачу адпаведным часткам прадпрыемства, паводле зацьверджанай праграмы, заявак і патрабаваньняў адносна

снабжэньня неабходнымі матарыяламі, правядзеньня адпаведнага рамонту і інш.;

е) за неэканомнае скарыстаньне сырцу, матарыялаў, рабочай сілы і інш.;

ж) за несваечасовае паведамленьне аб маючыхся недахопах і лішках запасаў сырцу, паўфабрыкатаў, матарыялаў і інш.;

4. Загадчык цэху павінен:

а) дакладна ведаць папярэднюю і пасьлядовую калькуляцыі цэхавага сабекошту прадукцыі, аналіз яе і ўжываць неабходныя захады да зьнішчэньня выяўленых недахопаў;

б) наглядаць за выкананьнем рабочымі ўстаноўленых правіл тэхнікі бясьпекі і аховы працы і за ўжываньнем імі агароджаў і інш. забясьпечваючых сродкаў;

в) сачыць за выкананьнем ўстаноўленых для цэху правіл і распараджэньняў адміністрацыі, у паасобку правіл унутранага парадку;

5. Загадчык цэху мае права:

а) накладаць на падпарадкаваных асоб спагнаньні, паводле правіл ўнутранага парадку;

б) прадстаўляць іх да прэміраваньня;

в) у выпадку невыкананьня дадзеных ім распараджэньняў, зьнімаць рабочых з працы да разгляду справы ва ўстаноўленым парадку, без аплаты за патрачаны час;

г) пераводзіць рабочых з аднэй работы на другую, у межах правіл найму;

д) даваць распараджэньні па цэху, абавязковыя для працаўнікоў цэху і адпавядаючыя распараджэньням дырэкцыі прадпрыемства;

6. Загадчык цэху:

а) прыме ўдзел у распрацоўцы прамфінпляну і ўстанаўленьні розных тэхнічных і вытворчых паказчыкаў;

б) прымае ўдзел у распрацоўцы і ўстанаўленьні ТНБ норм выпрацоўкі і зьдзельных расцэнак, а таксама правіл унутраняга парадку;

в) прымае ўдзел у рабоце бюро рацыянілізацыі па рацыяналізацыі тэхналёгічных працэсаў і арганізацыі неабходных для гэтага спроб і досьледаў;

г) садзейнічае адпаведнаму органу прадпрыемства ў рабоце па садзейнічаньню рабочаму вынаходніцтву;

д) падрыхтоўвае рамонт цэху, удзельнічае ў складаньні пляну гэтага рамонту і наглядае за якасьцю выкананага рамонту;

е)прымае ўдзел у працы тэхнічных і вытворчых нарад, дапамагае працы вытворчых нарад і ажыцьцяўляе прынятыя адміністрацыяй іх прапановы.

## Правы і абавязкі вытворчых майстраў (інструктароў і інш. адпаведных працаўнікоў).

7. Вытворчы майстар кіруе адм.-тэхнічнаю і гаспадарчаю дзейнасьцю падпарадкаванага яму аддзяленьня (або адпаведнаю часткаю прадпрыемства) і непасрэдна падпарадкоўваецца загадчыку цэху (адпаведнаму працаўніку); у паасобку-ж да яго фукцый належыць:

а) арганізацыя вытворчых працэсаў, разьмеркаваньне работы і рабочых па варштатах, машынах, абсталяваньню і інш. адпаведна іх кваліфікацыі;

б) устанаўленьне спосабу вырабу прадукцыі ў напрамку найлепшай рацыяналізацыі і ўстанаўленьня чарговасьці апэрацый,

в) выяўленьне прычын браку, нядобраякаснага выкананьня работ і ўдзел у распрацоўцы мерапрыемстваў для зьнішчэньня недахопаў у рабоце;

г) ужываньне адпаведных захадаў да павялічэньня колькасьці, палепшаньня якасьці, зьніжэньня кошту прадукцыі;

д) інструктаваньне падпарадкаваных працаўнікоў і рабочых у сэнсе рацыянальнага і эканомнага выкананьня работы;

е) нагляд за правільнай загрузкай машын, прыладаў і рабочых і за бесьперапынным ходам вытворчасьці;

ж) ужываньне захадаў да зьнішчэньня прастою машын і інш. прыладаў, прагулаў рабочых і правільны падлік прастояў, прагулаў і работы;

з) нагляд за належным становішчам машын, абсталяваньня і прыладаў і ўжываньне неабходных захадаў да сваечасовага зьнішчэньня іх недахопаў;

і) прыём па якасьці дастаўленых матарыялаў, прыладаў і інш. і складаньне ў адпаведных выпадках актаў аб нягоднасьці гэтых матарыялаў з падачаю іх загадчыку цэху для адпаведнай пераацэнкі;

к) нагляд за эканомным і мэтазгодным выдаткаваньнем сырцу, паўфабрыкатаў, матарыялаў, прыладаў і інш., паводле ўстаноўленых норм цэхавых выдаткаў;

л) нагляд за выкананьнем правіл унутранага парадку і распараджэньняў дырэктара прадпрыемства адносна працоўнай дысцыпліны;

м) сваечасовая дача заказаў праз загадчыка цэху іншым часткам прадпрыемства на правядзеньне адпаведнага рамонту, дапаможных работ, папаўненьне запасаў матарыялаў і інш. і нагляд за дакладным выкананьнем гэтых заказаў;

н) неадкладнае азнаямленьне з папярэдняй і пасьлядовай калькуляцыяй цэхавага сабекошту прадукцыі;

о) падрыхтоўка неабходных данных да вытворчай праграмы, нарадаў—заказаў (тэрмінаў іх выкананьня), разьмераў цэхавага і каштарыснага сабекошту, заявак па каштарысах на сырэц, паўфабрыкаты, рабсілу і інш.

п) ужываньне адпаведных захадаў у галіне тэхнікі бясьпекі паводле ўстаноўленых правіл і азнаямленьне рабочых з гэтымі правіламі і ўжываньне папераджальных прыладаў;

р) ужываньне неабходных захадаў па рацыяналізацыі вытворчасьці у межах адпаведных плянаў пад наглядам бюро рацыяналізацыі.

8. У адпаведнасьці з ускладзенымі на майстра абавязкамі ён адказвае:

а) за перавышэньне проценту браку па даручанай яму частцы прадпрыемства звыш нармальнага;

б) за пагоршаньне якасьці прадукцыі і перавышэньне яе сабекошту;

в) за памяншэньне працоўнай дысцыпліны;

г) за прастоі ў рабоце з прычыны няправільнага скарыстаньня рабочай сілы;

д) за несваечасовую дачу адпаведным часткам прадпрыемстваў неабходных заявак на матарыялы, рамонты і інш;

е) за неэканомнае скарыстаньне сырцу, матарыялаў, рабочай сілы і інш.;

ж) за несваечасовае паведамленьне аб маючыхся недахопах і лішках запасаў сырцу і інш;

з) за няправільнае ўжываньне рабочымі агароджаў і папераджальных прыладаў;

і) за невыкананьне правіл унутранага парадку.

9. Майстар мае права:

а) прадстаўляць падпарадкаваных яму асоб да накладаньня на іх спагнаньняў і да прэміраваньня ў адпаведных выпадках;

б) часова здымаць з працы рабочых да разгляду справы без аплаты за патрачаны час у выпадку невыкананьня дадзенага ім распараджэньня, безадкладна паведамляючы аб гэтым загадчыка цэху.

10. Майстар павінен:

а) прымаць разам з загадчыкам цэху ўдзел у распрацоўцы прамфінпляну ў частцы ўстанаўленьня тэхніка-вытворчых паказчыкаў, разьмер прадукцыі і выдаткаваньня сырцу і г. д.;

б) удзельнічаць у працы адпаведных органаў прадпрыемства па дапамозе рабочаму вынаходніцтву;

в) удзельнічаць з загадчыкам цэху ў распрацоўцы правіл унутранага парадку;

г) удзельнічаць у падрыхтоўцы пляну рамонту прадпрыемства і наглядаць за якасьцю выкананага рамонту ў падпарадкаванай яму частцы прадпрыемства;

д) разам з загадчыкам цэху складаць плян адпачынкаў рабочых і ўстанаўляць чарговасьць адпачынкаў, ужываючы належныя захады да бесьперапыннай работы прадпрыемства;

е) падаваць установленыя зьвесткі і рапарты аб становішчы падпарадкаванай часткі прадпрыемства.

11. Загадчык цэху і майстар могуць атрымоўваць ад іншых частак прадпрыемства, якія ім не падпарадкаваны ва ўстаноўленым парадку, неабходныя ім калькуляцыйныя, статыстычныя і інш. матарыялы па згодзе з кіраўніком гэтай часткі.

---

## 5. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК СССР за 20 лютага 1929 г. „Пра парадак ужываньня Кодэксу Законаў аб Працы ў кулацкіх гаспадарках“ (З. З. СССР 1929 г. № 14, арт. 117).**

1. Калі ў пісьмовым працоўным дагаворы ёсьць умовы, што пагаршаюць становішча рабочага ў параўнаньні з чынным законадаўствам альбо накіраваны на абмежаваньне палітычных ці агульна-грамадзкіх праў рабочага, то сельскі савет павінен на працягу ня больш 5-ці дзён запрапанаваць наймальніку ўнесьці ў дагавор зьмены ў адпаведнасьці з законадаўствам. Калі ў паказаны тэрмін наймальнік не ўнясе адпаведных зьмен у дагавор, то сельскі савет павінен скласьці акт і накіраваць яго раённаму ўпаўнаважанаму па працы і сацыяльным страхаваньні для прыцягненьня наймальніка да адказнасьці.

2. Умовы працы часовых рабочых запісваюцца ў разьліковыя лісты па далучаемай пры гэтым форме. Гэтыя лісты кожны наймальнік павінен выдаваць кожнаму часоваму рабочаму. Апроч таго, кулацкія гаспадаркі, што ўжываюць наймовую працу часовых рабочых, павінны весьці запіс найму і выплачаных сум зарплаты ў спэцыяльных сшытках, паводле далучаемай пры гэтым форме.

3. Павілічэньне нармальнага рабочага дня (ня больш, як на 2 гадзіны) дазваляецца ў пэрыяд з 1 мая да 1 лістапада ў тым выпадку, калі павялічэньне рабочага дня не прадугледжана працоўным дагаворам, выкананьне работы звыш нармальнага рабочага часу дапушчаецца

толькі пры неабходнасьці скончыць пачатую работу і калі спыненьне гэтай работы можа выклікаць сапсаваньне матарыялаў (уборка сена і г. д.). Паказаная работа павінна быць запісана ў разьліковых лістох (кніжках) рабочых і аплата за іх робіцца ў палутарным разьмеры ў параўнаньні з аплатай нармальнага рабочага часу за першыя дзьве гадзіны і ў падвойным разьмеры—за астатнія.

4. Згоды на часовых рабочых рэгіструюцца ў сельскіх саветах.

5. Наймальнікі, што парушаюць пастанову ЦВК і СНК СССР за 20/II—1929 г., а таксама гэтую інструкцыю, прыцягваюцца да адказнасьці альбо ў крымінальным парадку паводле арт. 139 Крымінальнага Кодэксу БССР, альбо ў адміністрацыйным парадку паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 2/I—1929 г. (З. З. СССР 1929 г. № 4, арт. 31) праз накладаньне штрафу да 100 р.

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Сельска-Гаспадарчы Інспэктар
НК Працы БССР *Л. Лашкевіч.*

30 красавіка 1929 г.
№ 31.

---

*Дадатак 1-ы.*

Зацьвярджаецца. Нам. Народнага Камісара Працы БССР. Д. ЗАХАРАВА. 30 красавіка 1929 г.

**(ГЭРБ БССР)**

## РАЗЬЛІКОВЫ ЛІСТ

часовага рабочага (-цы) у сельскай гаспадарцы, да якой дастасоўваецца пастанова ЦВК і СНК СССР за 20 лютага 1929 г. „Пра парадак ужываньньня Кодэксу Законаў аб Працы ў кулацкіх гаспадарках“.

Наймальнік . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(прозьвішча, імя і па бацьку)

пражываючы ў вёсцы . . . . . . . . . . . . сельсавету . . . . . . . .

. . . . . . . раёну . . . . . . . . . . акругі . . . . . . . . . . . .

наняў рабочага (работніцу) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . год
(прозьвішча, імя і імя па бацьку)

з . . . . . . . . дня . . . . . . . . месяца да . . . . . . . . дня . . .

. . . . . мес. 192 . . . для выкананьня наступных работ: . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(паказаць якіх)

### Умовы найму

1. Работа выконваецца з . . . . . . . . . гадзін раніцы да . . . .

. . . . . гадзін падвечар з перапынкамі ад . . . . . . . да . . . . . .

. . . . . і ад . . . . . . . . . . . да . . . . . . . . . . . . . . .

2. Заработная плата: пры падзённай аплаце:

а) за нармальны рабочы дзень . . . . . руб. . . . . кап. у дзень;

б) за павялічаны да . . . . . гадзін рабочы дзень . . . р. . . . к. дзень

в) за работу ў дні адпачынку (у нядзелі) . . . . . р. . . . к . . . у дзень.

3. Іншыя ўмовы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(напр. харчы, калі яны выдаюцца, жыльлё і г. д.)

Подпіс наймальніка . . . . . . . . . . . . . . .

„ наняўшагася . . . . . . . . . . . . . .

„ Прадстаўніка Саюзу Сельгаслесрабочых, калі ён прысутнічаў . . . . . . . . . . .

Рабочы зволен . . . . . . . . . дня . . . . . . . . . . месяцу, усяго працаваў дзён . . . . . . . .

Подпіс наймальніка . . . . . . . . . . . . . .

„ наняўшагася . . . . . . . . . . . . . .

## РАЗЬЛІК

### Выплачана

| За што выплачана | Калі выплачана | Чым выплачана: грашмі ці натурай; калі натурай, то паказаць, што выдадзена | Колькі выплачана | | Расьпіска | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Р. | К. | Наняўш. | Наймальн. |
| 1. Падзённа: | | | | | | |
| а) за . . . . дзён | | | | | | |
| б) за . . . . дзён | | | | | | |
| 2. Зьдзельна: | | | | | | |
| а) за . . . (паказаць колькі чаго зроблена) | | | | | | |
| б) за . . . . (паказаць колькі чаго зроблена) | | | | | | |
| в) за . . . . . | | | | | | |
| 3. За работу ў дні адпачынку: | | | | | | |
| а) за . . . . дзён | | | | | | |
| б) за . . . . дзён | | | | | | |
| 4. За звышчасовыя работы: | | | | | | |
| а) за . . . . дзён | | | | | | |
| б) за . . . . гадз. | | | | | | |
| в) за . . . . гадз. | | | | | | |

*Дадатак 2.*

## Правілы запаўненьня разьліковых лістоў для часовых рабочых.

1. Гэты разьліковы ліст павінен быць выданы кожнаму рабочаму (работніцы), які (якая) наняты на тэрмін менш, як два тыдні (хаця-б на адзін дзень), незалежна ад спосабу аплаты (падзённа, зьдзельна, адпрацоўка за ўзяты раней хлеб і г. д.).

2. Блянкі разьліковых лістоў наймальнікі атрымоўваюць у сельсаветах ці ў раённых упаўнаважаных па працы.

3. У тых гаспадарках, якія, паводле інструкцыі НКП БССР за 30 красавіка 1929 г., абавязаны весьці ў асобных сшытках падлік найму часовых рабочых і выплачанай ім зарплаты, разьліковы ліст запаўняецца ў адным экзэмпляры і выдаецца рабочаму на рукі. У гаспадарках, якія такіх сшыткаў не вядуць, на кожнага рабочага запаўняецца два разьліковых лісты, з якіх адзін выдаецца на рукі рабочаму, а другі захоўваецца (для праверкі) у наймальніка.

4. Разьліковы ліст наймальнік павінен выдаць рабочаму да выхаду на работу ў першы дзень работы.

5. Калі наймальнікам заключаны з прафсаюзам сельгаслесрабочых дагавор на часовых рабочых, то ўмовы кожнага асобнага часовага рабочага (работніцы) устанаўляюцца і запісваюцца ў разьліковы ліст на падставе гэтага дагавору.

Калі дагавору з прафсаюзам няма, то ўмовы працы кожнага часовага рабочага, вызначаныя і запісаныя ў гэтым лісьце, маюць сілу працоўнага дагавору.

6. За нявыдачу разьліковых лістоў часовым рабочым, няправільныя запісы ў іх, ці ўстанаўленьне ў разьліковых лістох горшых умоў, чымся прадугледжана законамі, наймальнікі прыцягваюцца да адказнасьці альбо ў крымінальным парадку паводле арт. 139 Крымінальнага Кодэксу БССР, альбо ў адміністрацыйным паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 1/IX—1928 г. (З. З. БССР 1928 г. № 26) праз накладаньне штрафу да 100 руб.

Ст. Сельска-Гаспадарчы Інспэктар
Народнага Камісарыяту Працы БССР *Л. Лашкевіч.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *Ф. Ніканораў.*

---

*Дадатак 3.*

Гэты сшытак выдаецца сельсаветам; запісы ў ім робіць і хавае яго наймальнік.

Зацьвярджаю.
Нам. НК Працы БССР
Д. Захарава.
Менск, 30/IV-1929 г.

ГЭРБ БССР

СШЫТАК № . . . .

для запісаў найму і разьліку часовых рабочых (падзёньнікаў, зьдзельшчыкаў, адработкі) у сялянскіх гаспадарках, на якія пашыраецца пастанова ЦВК і СНК БССР за 20/II-1929 г. „Пра парадак ужываньня Код. Зак. аб Працы ў кулацкіх гаспадарках“.

# ПРАВІЛЫ

запаўненьня сшыткаў для запісаў найму і разьліку часовых рабочых.

1. У сшытак запісваецца наём і разьлік кожнага рабочага (работніцы), якія заняты на тэрмін менш як 2 тыдні або для работы, працяжнасьць якой не перавышае двух тыдняў у сельска-гаспадарчы сэзон.

Запісвацца павінен наём кожнага такога часовага рабочага, незалежна ад таго, як ён атрымоўвае аплату, г. зн. падзённа, зьдзельна, ці адрабляе за ўзятыя ўперад хлеб, грошы і г. д.

2. Наймальнік абавязан у той самы дзень, калі часовы рабочы пачынае працаваць, запісаць у сшытак (гр. 1, 2 і 3): а) прозьвішча рабочага, дзень, з якога ён пачаў працаваць, і работу, на якую ён наняты; б) адначасна з выдачай рабочаму платы за выкананую работу (пасьля скончэньня яе) запоўніць у сшытку гр. гр. 4, 5 і 6 і даць рабочаму расьпісацца.

3. Калі рабочы няпісьменны, разьлік павінен рабіцца абавязкова ў прысутнасьці члена сельсавету, ці прадстаўніка сельрабачкому Саюзу сель.-гасп. і ляс. рабочых. У гэтых выпадках за рабочага расьпісваецца член сельсавету ці сельрабачкому.

4. Калі рабочы атрымаў аплату натурай, то адначасна з запісам сумы (кошту) натуры робіцца адзнака аб тым, якую і колькі натуры атрымаў рабочы.

5. Калі рабочы, які ўжо працаваў некалькі дзён, атрымаў разьлік пасьля скончэньня гэтае працы і пасьля зноў пачынае працаваць, то другая праца запісваецца асобна.

6. Запісы ў сшытку павінны быць аднольковыя з запісамі ў разьліковых лістох і робяцца адначасна.

7. Наймальнік абавязан захоўваць сшытак і даваць (паказваць яго) для праверкі па патрабаваньні членаў сельсавету ці рабачкому Саюзу сель.-гасп. і ляс. рабочых і інспэктароў працы.

Старшы Сельска-Гасп. Інспэктар
Народнага Камісарыяту Працы БССР *Л. Лашкевіч.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *Ф. Ніканораў.*

---

Прозьвішча наймальніка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Імя . . . . . . . . . . . . Імя па бацьку . . . . . . . . . . . .

Месца пражываньня наймальніка . . . . . . . . . . . . . . . . .

акруга . . . . . . . . раён . . . . . . . . сельсавет . . . . . . . .

вёска . . . . . . . . . . . . . . . хутар . . . . . . . . . . . . .

Наймальнік мае: пахаці . . . . гэктараў, сенажаці . . . . гэкт. . . .

коняй . . . . . . . . кароў . . . . . . . дробнае жывёлы . . . . . .

саду . . . . . . . . гэкт., гароду . . . . . . . . . гэкт . . . . . . . .

інш. дапаможныя галіны (кузьня, млын, маслабойня і г. д.) . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыбытак падлічаны для абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам . . . . . . . . . . . руб. . . . . . кап.

Колькасьць едакоў у гаспадарцы . . . . . . . з іх працуе ў гаспадарцы . . . . . . . . . .

Выдадзены „ . . “ . . . . . . . . . . 192 . г.

Старшыня . . . . . . . . . с.-с. . . . . . . . . . . . . . . .
(подпіс)

| Прозьвішча, імя і імя па бацьку рабочага ці работніцы, працаваўшых у наймальніка | Калі пачаў працаваць (дзень і месяц) | Якія работы выконвае | Колькі дзён працаваў | Колькі ўсяго атрымаў за работу | | Калі атрымаў заробленае (дзень і мес.) | Расьпіска працаваўшага ў атр. заработку |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Р. | К. | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | 7 |
| | | | | | | | |

на апошняй старонцы паказаць, што ў гэтым сшытку 12 старонак.

---

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра мерапрыемствы для разьмеркаваньня на работу ў дзяржаўных, каперацыйных, грамадзкіх і прыватных прадпрыемствах і ўстановах асоб, што звольнены з Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі і Рабоча-Сялянскага Чырвонага флёту.

Для разьвіцьця пастановы ЦВК і СНК СССР за 29 мая 1925 году „Пра льготы ў галіне працы для асоб, звольненых у запас, бестэрміновы водпуск і зусім ад службы ў РСЧА і РСЧФ“ (З. З. СССР 1925 г. № 37, арт. 275), пастановы ЦВК і СНК БССР за 10 красавіка 1925 г. „Пра парадак дачы работы ў грамадзянскіх установах і прадпрыемствах асобам, звольненым з РСЧА і РСЧФ“ (З. З. БССР 1925 г. № 20, арт. 179), пастановы СНК БССР за 29 сьнежня 1926 г. „Аб зацьверджаньні дадатковага сьпісу пасад у грамадзянскіх установах, якія вінны абавязкова замяшчацца дэмабілізаванымі з Чырвонай арміі і флёту“ (З. З. БССР 1927 г. № 2, арт. 11) і пастановы за 31 кастрычніка 1928 г. „Пра мерапрыемствы для разьмеркаваньня на работу дэмабілізаваных чырвонаармейцаў (З. З. БССР 1928 г. № 32, арт. 304), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Асобы, што звольнены з РСЧА і РСЧФ пры накіраваньні і прыёме на работу ва ўсіх выпадках прыроўніваюцца да членаў прафэсіянальных саюзаў, у прыватнасьці тады, калі калектыўнымі дагаворамі прадугледжан пераважны альбо выключны прыём на работу членаў прафэсіянальных саюзаў.

II. Усе дзяржаўныя, каперацыйныя, гарадзкія і прыватныя прадпрыемствы і ўстановы павінны замяшчаць толькі асобамі, што звольнены з РСЧА і РСЧФ у запас, бястэрміновы водпуск, альбо зусім ад службы

ўсе пасады прадугледжаныя паказанымі вышэй пастановамі ЦВК і СНК СССР за 29 сьнежня 1926 году, незалежна ад прыняцьця на пасаду асоб начальніцкага складу паводле пастановы СНК СССР за 14 верасьня 1926 г. „Пра парадак дачы пасад у дзяржаўных установах і прадпрыемствах асобам начальніцкага складу РСЧА, што зводьнены ў запас, доўгатэрміновы водпуск і зусім ад службы" (З. З. СССР 1926 г. № 63, арт. 475) і арт. 8 пастановы ЦВК і СНК СССР за 22 лютага 1928 г. „Да дня дзесяцігодзьдзя існаваньня Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі (З. З. СССР 1928 г. № 13, арт. 109).

III. Пасады, што аслабаняюцца з прычыны прызыву ў РСЧА, альбо РСЧФ касуюцца ў апошнюю чаргу з захаваньнем агульнага парадку скасаваньня пасад і з дазволу адпаведнай акруговай інспэкцыі працы.

У выпадку скасаваньня ў парадку гэтага артыкулу пасад, што былі заняты асобамі, прызванымі ў РСЧА і РСЧФ, прадпрыемствы і ўстановы павінны забясьпечыць за дэмабілізаванымі колькасьць пасад, роўную ліку асоб, прызваных у РСЧА і РСЧФ.

IV. Пасады, што павінны быць абавязкова заняты асобамі, звольненымі з РСЧА і РСЧФ, могуць быць замешчаны іншымі асобамі толькі ў выпадку, калі наймальнік накіраваў адпаведнае патрабаваньне, але гэты попыт на работу ня выкананы на працягу двох тыдняў з моманту падачы патрабаваньня з прычыны адсутнасьці на падліку біржы працы асоб адпаведнай кваліфікацыі.

V. Усе дзяржаўныя, каперацыйныя, грамадзкія і прыватныя прадпрыемствы і ўстановы павінны падаваць біржам працы наступныя зьвесткі:

а) пра кожны выпадак аслабаненьня пасад, якія абавязкова павінны быць замешчаны асобамі, што зволены з РСЧА і РСЧФ;

б) пра кожны выпадак аслабаненьня пасад з прычыны прызыву асоб, што займалі гэтыя пасады, у РСЧА і РСЧФ.

У гэтых зьвестках паказваецца: а) назва прадпрыемства, установы, гаспадаркі; б) прозьвішча рабочага альбо служачага; в) назва пасады і характар выконваемай работы.

VI. Біржы працы павінны сачыць за сваечасовым паступленьнем ад усіх прадпрыемстваў і ўстаноў зьвестак, паказаных у арт. V гэтае пастановы.

VII. На падставе зьвестак, атрыманых ад прадпрыемстваў і ўстаноў, біржы працы вядуць падлік вакантных пасад, што падлягаюць абавязковаму замяшчэньню асобамі, звольненымі з РСЧА і РСЧФ.

VIII. Пры рэгістрацыі асоб, што звольнены з РСЧА і РСЧФ біржы працы выяўляюць іх кваліфікацыю па наступных адзнаках:

а) адукацыя агульная і спэцыяльная, б) работа па найму да паступленьня на вайсковую службу (род работы і яе працяжнасьць), в) пасада і катэгорыя на вайсковай службе і характар работ, што выконваліся за час знаходжаньня на вайсковай службе, г) характар работы, якая можа быць дадзена ў грамадзкім прадпрыемстве, альбо ўстанове.

IX. Біржы працы вядуць спэцыяльны падлік беспрацоўных, што звольнены з РСЧА і РСЧФ па катэгорыі пасад, што могуць быць замешчаны паказанымі асобамі.

X. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на інспэкцыю працы.

XI. Наймальнікі, што парушаюць гэтую пастанову прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

XII. З выданьнем гэтай пастановы касуюцца: 1) інструкцыя НК Працы і НК РСІ БССР за 18 верасьня 1925 г. пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК БССР за 10 красавіка 1925 г. „Пра парадак дачы работы ў грамадзянскіх установах і прадпрыемствах асобам, звольненым з РСЧА і РСЧФ (Бюл. СНК 1925 г. № 3), 2) Пастанова НК Працы БССР за 24 кастрычніка 1925 г. „Пра падачу ўсімі грамадзянскімі ўстановамі і прадпрыемствамі ў органы НК Працы БССР зьвестак аб кожным выпадку замяшчэньня гэтых пасад у парадку беспасрэднае згоды з асобамі, звольненымі з РСЧА і РСЧФ (г. зн. не праз біржу працы (Бюл. СНК 1925 г. № 7), 3) Абежнік НК Працы БССР за 26 кастрычніка 1925 г. „Пра мерапрыемствы па забясьпечаньні звольненых з РСЧА і РСЧФ работай у грамадзянскіх установах" (Бюл. СНК 1925 г. № 7), 4) Пастанова НК Працы БССР за 18 лістапада 1926 г. № 10 „Пра парадак замяшчэньня пасад, якія аслабанены з прычыны прызыву грамадзян у РСЧА і РСЧФ" Бюл. СНК 1926 г. № 15).

*Увага.* п. 4 арт. XII узгоднены з НК РСІ БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Інспэктар па рэгуляваньні рынку працы
НКП БССР *С. Мышалаў.*

15 мая 1929 г.
№ 33.

---

Узгоднена з НКЮ БССР.

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра зьмену свае пастановы за 4 жніўня 1927г., № 74 „Пра парадак разгляду працоўных спрэчак, якія ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовай працы для асабовага абслугоўваньня наймальніка і яго сям'і".**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зрабіць наступныя зьмены ў сваёй пастанове за 4 жніўня 1927г., № 74 „Пра парадак разгляду працоўных спрэчак, якія ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовай працы для асабовага абслугоўваньня наймальніка і яго сям'і" (Бюл. СНК 1927 г. № 14):

I. Арт. 11 запісаць так:

„11. Калі наймальнік адмаўляецца дабравольна выканаць падпісаную ім згоду, у якой вызначана сума, што належыць уплаце працоўнаму, то акруговая інспэкцыя працы, па заяве работніка, альбо прафэсіянальнага саюзу народнага харчаваньня выдае зацікаўленаму работніку пасьведчаньне па далучаемай форме на атрыманьне належнай сумы.

Паказанае пасьведчаньне мае сілу выканаўчага ліста і даецца судоваму выканаўцу для спагнаньня ў прымусовым парадку.

У тых-жа выпадках, калі ў пастанове міравой камісіі сума, належачая ўплаце работніку, ня вызначана, інспэкцыя працы перадае афіцыйна засьведчаную копію дасягнутай у міравой камісіі згоды з надпісам, які сьведчыць аб законнасьці пастановы міравой камісіі з погляду падсуднасьці ёй гэтай справы і аб адпаведнасьці рашэньня заканадаўства аб працы, разам з усімі матарыяламі па гэтаму канфлікту ў народны суд.

Народны суд, упэўніўшыся ў тым, што пастанова міравой камісіі не пярэчыць чыннаму заканадаўству і што справа падсудна міравой камісіі, вызначае суму, што падлягае ўплаце працоўнаму і выдае выканаўчы ліст, на падставе якога пастанова выконваецца паводле ГПК".

II. Увагу да арт. 11 запісаць так: „Адмаўленьне народнага судзьдзі выдаць выканаўчы ліст можа быць абскарджана спаганяючай асобай у парадку арт. 233 ГПК".

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Праўны Інспэктар *Л. Лашкевіч.*

22 мая 1929 г.
№ 34.

---

Дадатак да пастановы НК Працы БССР
за 22 мая 1929 г. № 34.

__________________192 г.

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Выдана ______________________________
(прозьвішча, імя і імя па бацьку зацікаўленага работніка, альбо назва прафсаюзу).

Для атрыманьня з __________________________
(прозьвішча, імя і імя па бацьку наймальніка).

сумы ў ________ руб. ____ кап., што падлягае ўплаце на падставе законна прынятай пастановы міравой камісіі, якая арганізавана пры ________ __________ Акруговай Інспэкцыі Працы.

Гэта пасьведчаньне мае сілу выканаўчага ліста і падаецца судоваму выканаўцу для спагнаньня ў прымусовым парадку.

Подпіс ____________________

Месца для пячаткі.

---

## 8. Пастанова Народных Камісарыятаў Працы і Юстыцыі БССР

**пра скасаваньне сваіх пастаноў, абежнікаў і тлумачэньняў, якія страцілі сілу з прычыны выданьня „Правілаў аб міравым, пасрэдніцкім і судовым вырашэньні працоўных спрэчак".**

Народныя Камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць скасаваць наступныя свае пастановы, абежнікі і тлумачэньні, якія страцілі сілу з прычыны выданьня „Правілаў аб міравым, пасрэдніцкім і судовым вырашэньні працоўных спрэчак (З.З. СССР 1928 г. № 56, арт. 495).

I. „Пра права народных судзьдзяў правяраць пастановы пасрэдніцкіх судоў па працоўных канфліктах толькі з фармальнага боку"— абежнік НКЮ за 3 жніўня 1922 г. (З.З. БССР 1922 г. № 7, арт. 116).

II. „Пра недапушчальнасьць разгляду ў міравых камэрах і пасрэдніцкіх судох спраў, што ўжо вырашаны РКК — абежнік НКП БССР за 27 чэрвеня 1925 г. (Бюл. СНК 1925 г. № 4).

III. „Пра парадак выкананьня пастаноў РКК—абежнік НКП і НКЮ БССР за 27 лістапада 1925 г. № 69 (З.З. БССР 1925 г. № 44,арт. 360).

IV. „Пра парадак скасаваньня пастаноў РКК, міравых камэр і пасрэдніцкіх судоў"—тлумачэньне НК Працы БССР за 5 лютага 1926 г. № 7 (Бюл. СНК 1926 г. № 2)

V. „Пра парадак падачы і разгляду скарг на пастановы РКК, міравых камэр і пасрэдніцкіх судоў"—абежнік НКПрацы БССР за 8 сакавіка 1926 г. № 18 (Бюл. СНК 1926 г. № 4).

VI. „Пра зьбіраньне ў органах НКП БССР справаводзтва па спрэчках, якія разглядаюцца ў міравых камэрах у пасрэдніцкіх судох,— абежнік НКП БССР за 15 сакавіка 1926 г. № 19 (Бюл. СНК 1926 г. № 4).

VII. „Пра парадак накіраваньня працоўных спрэчак"—абежнік НКП БССР за 20 верасьня 1926 г. № 54 (Бюл. СНК 1926 г. № 12).

VIII. „Пра падлік інспэкцыямі працы пастаноў Бюро нагляду па працоўных справах і пра практыку органаў НКП ў галіне нагляду па працоўных справах" — абежнік НКПрацы БССР за 5 кастрычніка 1926 г. № 2 (Бюл. СНК 1926 г. № 13).

IX. „Пра парадак скасаваньня пастаноў РКК"—тлумачэньне НКПрацы БССР за 19 лістапада 1926 № 11.

X. „Пра тэрміны разгляду працоўных спрэчак у пасрэдніцка-міравых органах, у РКК, у асобных сэсыях па працоўных справах і нарсудох"—абежнік НКП і НКЮ БССР за 23 лістапада 1926 г. № 12 (Бюл. СНК 1926 г. № 15).

XI. „Аб ужываньні абежніку НКП за 20 верасьня 1926 г. № 54 „Пра парадак накіраваньня працоўных спрэчак"—абежнік НКП БССР за 30 лістапада 1926 г. № 15 (Бюл. СНК 1926 г. № 16).

XII. „Пра парадак выкананьня пастаноў пасрэдніцкіх судоў"—абежнік НКП і НКЮ БССР за 24 сьнежня 1926 г. № 22 (Бюл. СНК 1927 г. № 2).

XIII. „Пра тэрміны разгляду органамі НКП скаргаў на пастановы РКК, міравых камэр і пасрэдніцкіх судоў" — абежнік НКПрацы БССР за 16 студзеня 1927 г. № 29.

XIV. „Пра недапушчальнасьць перагляду ў судох спрэчак, вырашаных РКК, міравымі камэрамі або камісіямі і пасрэдніцкімі судамі"— абежнік НКП і НКЮ за 4 мая 1927 г. № 61 (Бюл. СНК 1927 г. № 10).

XV. „Пра парадках выдачы выканаўчых лістоў па пастановах міравых камэр"—абежнік НКП і НКЮ БССР за 24 лістапада 1927 г. № 89 (Бюл. СНК 1927 г. № 18).

XVI. „Пра парадак разгляду іскавых спраў"—абежнік НКП БССР за 19 сакавіка 1928 г. № 18.

XVII. „Пра выкананьне пастаноў канфліктных органаў, зьвязаных з звальненьнем рабочых і служачых, паводле п.п. „в" і „г" арт. 47 Код. Зак. аб Працы",—тлумачэньне НКПрацы БССР за 30 мая 1928 г. № 39 (Бюл. СНК 1928 г. № 7).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Меркулаў.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

22 мая 1929 г.
№ 35.

Узгоднена з НК Унутраных Спраў і НКЮ БССР.

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра зьмену пастановы НК Працы, НК Унутраных Спраў і НК Юстыцыі БССР за 15 лістапада 1927 г. № 86 „Пра парадак вырашэньня працоўных спрэчак, што ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы вучняў, якія працуюць у саматужнікаў, рамесьнікаў, у прамысловай капярацыі і працоўных арцелях.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зрабіць наступныя зьмены ў пастанове НК Працы, НК Унутраных Спраў і НК Юстыцыі БССР за 15 лістапада 1927 г. № 86 „Пра парадак вырашэньня працоўных спрэчак, што ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы вучняў, якія працуюць у саматужнікаў, рамесьнікаў, прамысловай капярацыі і працоўных арцелях“ (Бюл. СНК за 1927 г. № 18).

I. У арт. 11 пасьля „то“ запісаць „Акруговая інспэкцыя працы“,

II. Увагу 2 да арт. 11 скасаваць.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Праўны Інспэктар НК Працы БССР *Л. Лашкевіч.*

22 мая 1929 г.
№ 36.

---

## 10. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г. „Пра адказнасьць за парушэньне чыннага заканадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні (З. З. БССР 1928 г. № 26, арт. 257 і „Савецкая Беларусь“ за 4 мая 1929 г.).**

I. Наймальнікі прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасьці за непадачу органам НК Працы вестак аб патрэбе ў рабочай сіле, за ня выдачу разьліковых кніжак, за парушэньне ўстаноўленнага парадку атрыманьня дазволу на звыштэрміновыя работы, прыём на работу непаўналетніх без дазволу інспэктара працы, за непадачу на зацьверджаньне інспэктароў працы правілаў унутранага парадку, за непадачу статыстычных матарыялаў па пытаньнях працы, за непадачу ў страхавыя касы разьліковых ведамасьцяй, за ўхіленьне ад рэгістрацыі ў органах сацыяльнага страхаваньня і інш.

II. Парушэньні правілаў аб аплаце рабочых і служачых у дзяржаўных установах і прадпрыемствах, прадугледжаныя п. „11“ арт. 2 пастановы НКП і НКЮ БССР за 15 мая 1928 г. № 37 „Пра адказнасьць службовых і іншых асоб за парушэньне заканадаўства ў галіне найманьня, звальненьня і аплаты працы рабочых і служачых, а таксама за невыкананьне пастаноў судовых і канфліктных органаў па працоўных справах“ (Бюл. СНК 1928 г. № 6) караюцца ў адміністрацыйным парадку, калі няма абцяжаючых акалічнасьцяй.

III. Наймальнікі, што парушаюць пастановы ЦВК і СНК СССР за 4 чэрвеня 1926 г. „Пра ўмовы працы на сэзонных работах“ (З. З. СССР 1926 г. № 40, арт. 290), за 14 студзеня 1927 г. „Аб умовах працы часовых рабочых і служачых“ (З. З. СССР 1927 г. № 9, арт. 80), за 4 красавіка 1928 г. „Аб умовах працы на будаўнічых работах“ (З. З. СССР 1928 г. № 21, арт. 187), за 20 лютага 1929 г. „Пра парадак ужываньня

Кодэксу Законаў аб Працы ў кулацкіх гаспадарках" (З. З. СССР 1929 г. № 14, арт. 117), правілы аб вучнёўстве ў саматужнікаў, рамесьнікаў, прамысловай капярацыі і працоўных арцелях" (З. З. БССР 1927 г. № 27, Арт. 126), „Аб умовах працы хатніх работніц і работнікаў, выконваючых работы асабовага абслугоўваньня наймальніка і яго сям'і" (З. З. БССР 1927 г. № 25, арт. № 117) прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. арт. I—IV гэтай інструкцыі, пры чым наймальнікі, што парушаюць закон пра парадак ужываньня Кодэксу Законаў аб Працы ў кулацкіх гаспадарках, прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку таксама за незаключэньне пісьмовага працоўнага дагавору, за нерэгістрацыю працоўнага дагавору ў сельскім савеце, за неўнясеньне зьмен у працоўны дагавор паводле паказаньняў сельскага савету; наймальнікі, што парушаюць правілы аб вучнёўстве ў рамесьнікаў, прамысловай капярацыі і працоўных арцелях прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку таксама за незаключэньне пісьмовых дагавароў на вучняў і непадачу іх інспэкцыі працы, сельскаму альбо местачковаму савету.

IV. Пастанова НКП БССР за 25 лістапада 1926 г. № 14 „Пра парушэньні па тэхніцы бясьпекі і прамысловай санітарыі", за якія наймальнікі могуць прыцягвацца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку (Бюл. СНК 1927 г. № 3) мае прыкладны характар і пры вырашэньні пытаньняў аб прыцягненьні наймальнікаў да судовай або адміністрацыйнай адказнасьці за парушэньне элемэнтарных правілаў санітарыі і тэхнікі бясьпекі трэба кіравацца галоўным чынам акалічнасьцямі і важнасьцю справы.

V. Калі паказаныя ў арт. I—IV парушэньні маюць сыстэматычны характар альбо паўтараюцца, то дапушчаецца прыцягненьне наймальніка да крымінальнай адказнасьці.

За адно парушэньне не дапушчаецца адначаснае накладаньне штрафу і прыцягненьне да крымінальнай адказнасьці, але пры адначасным выяўленьні некалькіх парушэньняў, дапушчаецца накладаньне адміністрацыйнага пакараньня за некаторыя парушэньні, а за іншыя з імі не зьвязаныя, прыцягненьне да крымінальнай адказнасьці, пры гэтым агульная сума грашовых штрафаў, што накладаюцца на прадпрыемствы адначасна ня можа перавышаць 100 руб.

Калі па характару парушэньня найбольш мэтазгодным зьяўляецца накладаньне дысцыплінарнага пакараньня, інспэкцыя працы павінна падаць адпаведную прапанову Народнаму Камісару Працы БССР паводле арт. 8 пастановы ЦВК і СНК СССР за 2 студзеня 1929 г. „Пра мерапрыемствы для змаганьня з парушэньнямі заканадаўства аб працы" (З. З. СССР 1929 г. № 4, арт. 31) і пастановы ЦВК і СНК БССР за 27 красавіка 1929 г. „Пра дапаўненьне палажэньня аб парадку дысцыплінарнай адказнасьці" („Савецкая Беларусь" за 4 мая 1929 г.).

VI. Адміністрацыйнае пакараньне накладаецца на тых асоб, якія зьяўляюцца стараной у дагаворы найма рабочай сілы, пры чым, калі наймальнік зьяўляецца юрыдычнай асобай, то да адказнасьці прыцягваецца тая асоба, якая адказвае за вядзеньне работы. Адміністрацыя альбо ўласьнік прадпрыемства альбо ўстановы прыцягваюцца да адказнасьці, калі ім было вядома аб парушэньнях, але яны ня прынялі належных мер да іх адхіленьня.

VII. Права накладаць адміністрацыйнае пакараньне да 25 руб. маюць праўныя і сельска-гаспадарчыя інспэктары працы. Штрафы да 100 руб. маюць права накладаць акруговыя і транспартныя вучастковыя інспэктары працы, а таксама старшы праўны і старшы сельска-гаспадарчы інспэктары НК Працы БССР.

VIII. Пратаколы аб парушэньнях могуць складацца ўсімі інспэктарамі працы ў тым ліку санітарнымі, тэхнічнымі, таксама кантралёрамі страхавых кас і раённымі ўпаўнаважанымі па працы і сацыяльным страхаваньні. Пратакол павінен быць абвешчан парушніку і падпісаны ім і сьведкамі, калі яны ёсьць. Парушнік мае права адмовіцца ад падпісаньня пратаколу; пры тым ён павінен быць паведамлен, што гэта адмаўленьне не прыпыняе выкананьня справы. Асобы, што склалі пратакол і ня маюць права самастойна накладаць штраф, а таксама, калі па пратаколах, складзеных праўнымі і сельска-гаспадарчымі інспэктарамі працы трэба накласьці штраф больш за 25 р., то пратаколы падаюцца адпаведнаму акруговаму інспэктару працы.

Асобы, што накладаюць адміністрацыйныя пакараньні, пасылаюць пастанову аб гэтым у адпаведную акруговую страхавую касу і копію парушніку.

IX. Парушніку даецца 7 дзён для дабравольнай выплаты штрафу, які ўносіцца ў адпаведную страхавую касу з заявай, альбо ў дзяржаўны банк на бягучы рахунак адпаведнае страхавой касы; пасьля гэтага тэрміну акруговыя страхавыя касы спаганяюць штраф прымусовым парадкам паводле палажэньня аб спагнаньні падаткаў (З. З. СССР 1925 г. № 70, арт. 518) і пастановы СНК БССР за 1 ліпеня 1926 г. „Пра парадак ужываньня арт. 17 палажэньня аб спагнаньні падаткаў“ (З. З. БССР 1926 г. № 26, арт. 97.)

Акруговыя страхавыя касы, атрымоўваючы штраф, выдаюць расьпіску, а таксама паведамляюць аб гэтым акруговую інспэкцыю працы.

X. Скаргі на пастановы праўных і сельска-гаспадарчых інспэктароў аб накладаньні штрафаў падаюцца ў двухтыднёвы тэрмін акруговаму інспэктару працы. Калі адміністрацыйнае пакараньне накладзена акруговым, транспартным вучастковым, старшым праўным альбо сельска-гаспадарчым інспэктарам НК Працы, то скарга падаецца ў той самы тэрмін у НК Працы БССР.

Скарга павінна быць разгледжана ў пяцідзённы тэрмін і аб рашэньні на працягу 3-х дзён паведамляецца асоба, што падала скаргу.

XI. Узоры пратаколу, пастановы аб накладаньні пакараньня, заявы і расьпіскі, далучаныя да інструкцыі НКП БССР за 17/IX-1928 г. № 52 (Бюл. СНК 1928 г. № 12) маюць сілу і з выданьнем гэтае інструкцыі, пры гэтым, калі штраф накладаецца праўным, сельска-гаспадарчым альбо транспартным інспэктарам працы, не запаўняецца графа „акруговаму інспэктару працы“ і ў пастанове замест „акруговы інспэктар працы“ запісваецца „праўны“ альбо „сельска-гаспадарчы“, альбо „транспартны“ інспэктар працы.

XII. З выданьнем гэтае інструкцыі касуюцца: а) інструкцыя НКП БССР за 17/IX-1928 г. № 862 „Пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК БССР, за 1/IX-1928 г. „Пра адказнасьць за парушэньне чыннага заканадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні“ (Бюл. СНК 1928 г. № 12) і б) тлумачэньне НКП БССР за 20 лістапада 1928 г. № 72 „Пра ўжываньне на транспарце пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г.“ „Пра адказнасьць за парушэньне чыннага заканадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні“ (Бюл. СНК 1928 г. № 15).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Старшы Праўны Інспэктар НК Працы БССР *Х. Гольдзінберг.*

30 мая 1929 г.
№ 37.

---

## 11. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра дапасаваньне працоўнага заканадаўства да некаторых работнікаў працоўных каляктываў.**

*Усім акруговым інспэкцыям працы, страхавым касам і кіраўніцтвам працоўных каляктываў.*

У зьвязку з запытаньнямі месц аб тым, ці трэба выдаваць дапамогу па беспрацоўю за час дапрызыўнай падрыхтоўкі асобам, працаваўшым у працоўных каляктывах больш установленага тэрміну зьмяняемасьці ці трэба ім выдаваць выхадную дапамогу, калі яны камандыраваны прафэсіянальнымі альбо іншымі арганізацыямі ў навучальныя ўстановы і інш., Народны Камісарыят Працы БССР паведамляе:

1. Калі беспрацоўныя, што працуюць у працоўных каляктывах, не зьмяняюцца ва ўстаноўлены тэрмін з прычыны адсутнасьці на біржах працы беспрацоўных адпаведнае кваліфікацыі, то на іх пашыраецца Кодэкс Законаў аб Працы і наогул працоўнае заканадаўства; пастанову-ж НКП СССР за 8/XII-1926 г. за № 262/148 („Изв. НКТ“ 1926 г., № 51/52) да іх дапасоўваць ня трэба.

У гэтых выпадках, пачынаючы з часу, калі яны падлягалі зьмяняемасьці, за іх павінны выплачвацца страхавыя ўносы.

2. Калі беспрацоўныя пакінуты ў п/к, па якіх небудзь іншых прычынах (напрыклад, матарыяльнае становішча і інш.), яны лічацца беспрацоўнымі, незалежна ад тэрміну знаходжаньня ў працоўных каляктывах і ўмовы іх працы рэгулююцца паказанай вышэй пастановай НКП СССР за 8/XII-1926 г. за № 262/148.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Сакратар НК Працы БССР *Ф. Нікanoраў.*

6 чэрвеня 1929 г.
№ 38.

---

## 12. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра меры змаганьня з падачай няправільных зьвестак аб выплачваемай рабочым і служачым заработнай плаце з мэтаю памяншэньня ўносу на сацыяльнае страхаваньне.**

*Акруговым пракурорам і акруговым судом.*

Паводле зьвестак, якія ёсьць у Народным Камісарыяце Юстыцыі, дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы, а таксама і прыватныя асобы, якія эксплёатуюць наёмную працу, падаюць у органы сацыяльнага страхаваньня сьвядома няправільныя зьвесткі аб фактычна выплачваемай рабочым і служачым заработнай плаце з мэтаю памяншэньня ўносаў на сацыяльнае страхаваньне.

Гэтыя выпадкі здараюцца таму, што органы пракуратуры і суду да гэтага часу не зварочвалі належнай увагі на неабходнасьць рашучай барацьбы з паказанымі зьявішчамі, якія вельмі шкодна адбіваюцца на справе сацыяльнага страхаваньня.

На падставе гэтага, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Пракурорскаму нагляду прыняць меры для атрыманьня ад акруговых страхкас зьвестак аб утоеных сумах заработнай платы і выпадках нявыплаты страхавых уносаў.

2. Пачынаць крымінальныя справы аб асобах, зрабіўшых паказаныя вышэй дзеяньні, па арт. 139 КК—у адносінах прыватных асоб і па арт. 200 КК—у адносінах службовых асоб.

3. Правядзеньне сьледзтва па такіх справах, а таксама вырашэньне іх у судовым парадку рабіць у самым хуткім часе.

4. У выпадку асабліва наўмысных парушэньняў законаў аб сацыяльным страхаваньні пракурорскаму нагляду абавязкова браць удзел у судовым пасяджэньні.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі—
Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

Пракурор на працоўных справах *Б. Глезераў.*

22 красавіка 1929 г.
№ 29.

---

## 13. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК БССР за 13 красавіка 1929 г. „Пра зьмены ў Крымінальна-Працэсуальным Кодэксе“.

У сувязі з зьменамі, якія ўнесены ў Крымінальна-Працэсуальны Кодэкс пастановаю Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Беларускай ССР за 13 красавіка 1929 г. („Савецкая Беларусь“ № 94 за 26 красавіка 1929 г.), Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе кіравацца наступным:

1. Рух крымінальных спраў, якія накірованы ў судова-сьледчыя і пракурорскія органы да моманту ўвядзеньня ў дзеяньне вышэй паказанай пастановы ЦВК і СНК за 13 красавіка 1929 г., павінен адбывацца ў наступным парадку:

а) справы, якія ў адпаведнасьці з арт. 26 КПК у новай рэдакцыі падсудны народнаму суду, павінны быць накіраваны акруговым судом у народны суд, апроч выпадкаў, калі гэтыя справы назначаны ўжо для разгляду ў судовым пасяджэньні акруговага суду альбо калі справа паводле якіх-небудзь прычын не магла быць вырашана ў часе разгляду яе ў гэтым пасяджэньні;

б) справы, якія накіраваны пракурорам у суд для спыненьня ў парадку арт. 226 КПК, лічацца спыненымі без вынясеньня аб гэтым спэцыяльнай пастановы суду і без накіраваньня справы для спыненьня пракурору.

Стораны паведамляюцца аб спыненьні гэтых спраў судом і могуць абскардзіць спыненьне пракурору, якому падпарадкаваны пракурор, які накіраваў справу ў суд.

Паказаныя ў гэтым пункце справы захоўваюцца ў судзе;

в) дасудовае сьледзтва, пачатае сьледчым па справах, пры якіх вядзеньне сьледзтва не зьяўляецца абавязковым паводле арт. 108 КПК у новай рэдакцыі, павінна быць праведзена да канца сьледчым і накіравана для далейшага руху наглядаючаму за сьледзтвам пракурору.

Наглядаючы пракурор мае права зрабіць з гэтага правіла выключэньне для асобных спраў у сэнсе наданьня сьледчаму права спыніць вядзеньне сьледзтва і перадаць справу органу дазнаньня для далейшага расьсьледваньня і накіраваньня ў агульным парадку;

г) пастанова аб адданьні падвіноўнага пад суд па справах, накіраваных органамі дазнаньня сьледчаму ў парадку п. 3 арт. 105 КПК у ранейшай рэдакцыі, павінна складацца самім сьледчым па правілах, прадугледжаных у арт. 224 КПК у новай рэдакцыі, без звароту справы для гэтай мэты органам дазнаньня;

д) падвіноўных па справах, якія накіраваны пракурорам у суд, у парадку арт. 229 КПК, лічыць адданымі пад суд без вынясеньня па ґэтаму пытаньню спэцыяльнай пастановы.

2. Копія пастановы аб адданьні падвіноўнага пад суд па справах, якія накіроўваюцца сьледчым у народны суд у парадку арт. 223 КПК у новай рэдакцыі, уручаецца судом падвіноўным.

*Увага.* Гэты парадак уручэньня копій пастановы аб адданьні пад суд захоўваецца часова, да вырашэньня пытаньня аб павялічэньні штатаў тэхнічных працаўнікоў у сьледчых органах, што дасьць магчымасьць уручэньня паказаных копій непасрэдна сьледчым адначасна з накіраваньнем справы ў суд.

3. Копія абвінавальнага заключэньня па справах, якія накіроўваюцца пракурорам у суд з пастановай аб адданьні падвіноўнага пад суд, уручаецца падвіноўнаму пракурорам адначасна з накіраваньнем справы ў суд.

4. Сьпіс асоб, якія падлягаюць выкліканьню ў судовае пасяджэньне па справах, якія накіроўваюцца сьледчаму ў парадку п. 3 арт. 105 КПК у новай рэдакцыі (арт. 223 КПК), павінен складацца органамі дазнаньня, пры гэтым сьледчы зацьвярджае гэты сьпіс альбо робіць у ім адпаведныя зьмены.

5. Вучастковыя пракуроры справы са сваімі пастановамі аб адданьні падвіноўнага пад суд, альбо спыненьне дасудовага сьледзтва накіроўваюць акруговаму пракурору для зацьверджаньня гэтых пастаноў.

Акруговыя пракуроры могуць, пад сваю асабістую адказнасьць, падаць вучастковаму пракурору права самастойнага спыненьня спраў, а таксама непасрэднага накіраваньня іх у суд з пастановай аб адданьні падвіноўнага пад суд.

6. Сьледчыя і пракуроры павінны паведамляць падвіноўнага і пацярпеўшага аб спыненьні імі справы зараз-жа пасьля спыненьня.

7. У выпадку спыненьня крымінальнай справы, па якой пацярпеўшым быў прад'яўлен грамадзянскі іск, апошні можа быць прад'яўлены ў агульным парадку, з аплатай яго ўстаноўленай судовай пошлінай, апроч спыненьня справы паводле нязначнасьці і малаважнасьці вынікаў дзеяньня, у якім выпадку прад'яўлены ў агульным парадку іск судовай пошлінай не аплачваецца.

8. Гэтая інструкцыя ўводзіцца ў дзеяньне з моманту ўвядзеньня ў дзеяньне пастановы ЦВК і СНК БССР за 13 красавіка 1929 г. Пра зьмены ў Крымінальна-Працэсуальным Кодэксе", г. зн. з 4-га мая 1929 г.

Народны Камісар Юстыцыі і
Пракурор Рэспублікі *А. Сташэўскі.*

Сакратар НК Юстыцыі БССР *К. Янэль.*

13-га мая 1929 г.
№ 34.

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра вырашэньне спраў паісках батракоў.**

*Усім акруговым народным судом і пракурорам.*

З прычыны паступіўшых з месц запытаньняў адносна вырашэньня спраў паісках батракоў і маючы на ўвазе неабходнасьць максымальнай абароны інтарэсаў апошніх, Народны Камісарыят Юстыцыі паказвае наступны парадак вырашэньня паказаных спраў:

1. Калі ў працоўным дагаворы альбо ўмове аб найме на працу батракоў было абумоўлена атрыманьне заработнай платы натуральнымі прадуктамі (жытам, мукой і г. д.), то суд, у сваёй пастанове, павінен паказаць аб спагнаньні ўласна натурай, а не прымаць альтэрнатыўныя рашэньні—альбо натурай альбо грашмі.

2. Пры выкананьні рашэньняў па гэтых справах, орган, які выконвае гэтае рашэньне (судвыканаўца, сельсавет, міліцыя) павінен прыняць усе меры да спагнаньня натураю.

3. Калі ў адказчыка няма прадуктаў у натуры, павінна быць узята маемасьць альбо грошы, неабходныя для закупкі на мясцовым рынку вызначанай у рашэньні колькасьці прадуктаў.

4. Гэты абежнік пашыраецца і на ўсе вынесеныя, але да гэтага часу ня выкананыя, рашэньні паісках батракоў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і
Старшыня Вярхоўнага Суда БССР *П. Валасевіч.*

Пракурор па Працоўных Справах *Б. Глезераў.*

22-га мая 1929 г.
№ 37.

---

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**пра парадак здачы кішачнага сырцу з рэзьніц у апрацоўку.**

На адмену сваіх пастаноў за 12 студзеня 1928 г. № 5 і за 9 красавіка 1928 г. № 32 „Аб парадку здачы кішачнага сырцу з рэзьніц у апрацоўку“ Народны Камісарыят Гандлю БССР, у адпаведнасьці з пастановаю ЭКАНА БССР за 27/VIII-27 г. і ў парадку п. 3 літ. „в“ і літ. „і“ арт. 3 Палажэньня аб НКГандлю БССР“ (З. З. БССР 1928 г. № 34, арт. 319) пастанаўляе:

1. Дзяржаўныя, каперацыйныя арганізацыі і прыватныя асобы пры зарэзцы імі жывёлы на рэзьніцах і зарэзных пунктах у парадку выданых Народнымі Камісарыятамі Земляробства, Ахоўы Здароўя і Унутраных Спраў правіл аб вэтэрынарным наглядзе за рэзьніцамі (Бюл. СНК № 7 за 1927 г.) павінны здаваць увесь належачы ім кішсырэц для апрацоўкі ў фабрыкат выключна той арганізацыі, якая праводзіць на гэтай рэзьніцы загатоўку і апрацоўку гэтага сырцу.

2. Здача кішсырцу ў апрацоўку, а таксама і продаж яго ў парадку загатоўкі праводзіцца ўласьнікамі ў момант адлучэньня яе ад зарэзанай жывёлы без атокі, але з прыкішэчнаю тлустасьцю і пры гэтым поўнымі камплектамі, у склад якіх уваходзяць:

а) ад рагатай жывёлы—чэрава, круг з гузёнкай, сініюга з пленкаю, пікала, прахаднік і пузыр з горлам;

б) ад авец і бараноў—чэрава, сініюга, гузёнка і трыбушок;

в) ад сьвіней—чэрава, кудраўка, гузёнка і пузыр;
г) ад цялят—страўнік, сінюга, гузёнка і пузыр.

3. Дзяржаўныя, каперацыйныя, а таксама і прыватныя асобы могуць па жаданьню зварочваць з апрацоўкі кішсырэц, пры гэтым яны павінны аплаціць за апрацоўку камплекту кішачнага сырцу ў наступным разьмеры:

| | | |
|---|---|---|
| ялавічны . . . . . . . . | 3 р. 50 к. | за камплект. |
| авечы і бараньні . . . . | 80 к. | „ |
| сьвінны . . . . . . . . . | 80 к. | „ |
| цялячы . . . . . . . . | 30 к. | „ |

*Увага.* Пры звароце апрацаванага кішсырцу дзяржаўным, каперацыйным арганізацыям і прыватным асобам экспартныя віды замяняюцца неэкспартнымі.

4. Апрацоўка кішачнага сырцу, які мае зварачацца ўласьнікам, робіцца апрацоўваючай арганізацыяй у фабрыкат не пазьней, як праз 24 гадзіны з моманту прыёму яго.

5. Аплату кішсырцу, які прадаецца жывёлабойнымі дзяржаўнымі і каперацыйнымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі ў неапрацаваным выглядзе ў парадку загатоўкі, г. зн. без звароту пасьля апрацоўкі, праводзіцца загатоўшчыкам у дзень здачы яго паводле ўстаноўленых НК Гандлю БССР цэн для кожнага ято выгляду і надбору.

6. Забясьпечаньне дзяржаўных, каперацыйных і прыватных спажыўцоў кішсырцу праводзіцца загатоўшчыкам у колькасьці, якая ім патрэбна для бягучай вытворчай патрэбы, у парадку вызначанай НК Гандлю чаргі і з open заменаю экспартных гатункаў адпаведным неэкспартным сырцом па прэйс-курантных цэнах, зацьверджаных НК Гандлю.

7. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з моманту яе апублікаваньня.

Народны Камісар Гандлю БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар НК Гандлю БССР *Паплаўскі.*

11-га мая 1929 г.
№ 24.

---

## 16. Інструкцыя Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі

**пра адкліканьне выбаршчыкамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі абраных імі членаў раённых і сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і сельскіх упаўнаважаных.**

Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі лічыць патрэбным устанавіць наступныя прыкладныя прычыны і парадак адкліканьня выбаршчыкамі з камітэтаў абраных імі членаў і сельскіх упаўнаважных:

а) выбаршчыкі могуць адклікаць з камітэту абраных імі членаў і сельскіх упаўнаважаных: 1) за невыкананьне наказаў выбаршчыкаў, 2) за адмаўленьне ад выкананьня даручэньняў камітэту, 3) за сыстэматычнае ненаведваньне пасяджэньняў камітэту, 4) за растрату грамадзкіх сродкаў і ўчыненьне шкоды Т-ву, 5) за парушэньне і скажэньне мэтаў і задач сялянскай узаемадапамогі, 6) асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, паводле канстытуцыі БССР па іх выяўленьні, 7) за скарыстаньне грамадзкага палажэньня ў сваю карысьць, 8) за недапушчальныя для члена камітэту паводзіны і па іншых важных прычынах.

Пытаньне аб адкліканьні членаў з камітэту можа быць узьнята часткаю членаў камітэту сялянскай узаемадапамогі аднаго з выбарчых вучасткаў, органамі саветаў, грамадзкімі арганізацыямі вёскі, дэлегацкімі сходамі жанчын, рэвізійнымі камісіямі і сходамі сельскіх упаўнаважаных.

Заявы аб адкліканьні членаў камітэту з паказаньнем прычын адкліканьня падаюцца ў адпаведны камітэт, апроч тых выпадкаў, калі гэта пытаньне ўзьнята непасрэдна камітэтам.

Сельскі і раённы камітэт, абмеркаваўшы пытаньне аб адкліканьні члена ці сельскага ўпаўнаважанага з камітэту пастанаўляе склікаць сход с/упаўнаважаных ці сход выбаршчыкаў адпаведнага выбарчага вучастку, пры гэтым камітэт павінен аб прынятай ім пастанове паведаміць адклікаемага члена і запрасіць яго на сход.

Для правадзейнасьці сходу с/упаўнаважаных ці выбаршчыкаў вырашаць пытаньне аб адкліканьні члена з камітэту патрэбна прысутнасьць на сходзе сельупаўнаважаных ня менш 75%, на сходзе выбаршчыкаў ня менш 35%.

Пытаньне аб адкліканьні члена вырашаецца простай большасьцю галасоў, прысутнічаючых на сходзе.

Пры адкліканьні члена ці сельупаўнаважанага яго месца займае кандыдат у парадку большасьці галасоў, паводле кандыдацкага сьпісу. Калі няма з якой небудзь прычыны кандыдата ў члены камітэту альбо сельупаўнаважанага ад данага выбарчага вучастку, то сход мае права абраць новага члена ці сельупаўнаважанага і кандыдата да яго.

Ч. в. аб. Старшыні Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі *А. Арапучык.*

Сакратар Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх
Т-ваў Узаемадапамогі *П. Стрыкаў.*

22 мая 1929 г.
№ 2.

---

## 17. Абежнік Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР

### пра некаторыя чарговыя задачы акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў і гарадзкіх саветаў у галіне пастаноўкі на належную вышыню справы сацыяльнага забясьпечаньня.

Матарыялы абсьледваньня пастаноўкі працы сацыяльнага забясьпечаньня паказваюць, што, ня гледзячы на прынцыповыя пастановы СНК БССР, НК РСІ СССР і БССР на гэтую працу, з боку шмат якіх раённых выканаўчых камітэтаў , гарадзкіх саветаў і нават некаторых акруговых выканаўчых камітэтаў не зварочваецца досыць увагі, дзякуючы чаму ёсьць выпадкі нескарыстаньня сродкаў, што даюцца па бюджэце, наглядаецца цяганіна пры афармленьні дакумэнтаў, што даюць права на прызначэньне сацыяльнага забясьпечаньня, выплаты пэнсіі, дапамогі, зусім не здавальняюча пастаўлена справаздачнасьць і г. д.

Каб у далейшым палепшыць справу Сацыяльнага Забясьпечаньня, Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР лічыць патрэбным правесьці ў жыцьцё наступнае:

1. Раённыя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы ўскладаюць адказнасьць за пастаноўку справы сацыяльнага забясьпечаньня на аднаго з членаў прэзыдыуму РВК альбо гарсавету, пры гэтым ні ў

якім разе не нагружаць гэтаю працаю старшынь раённых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі. Прозьвішчы і пасады асоб, адказных за гэтую справу, паведамляюцца інспэктару сацыяльнага забясьпечаньня акруговага выканаўчага камітэту.

*Увага.* Гэта не датычыцца гарадзкіх саветаў, па бюджэтах якіх не асыгнаваны сродкі на сацыяльнае забясьпечаньне, бо ў такіх выпадках, гэта ажыцьцяўляецца раённым выканаўчым камітэтам.

2. Вызначэньне пэнсій, дапамогі, прызнаньне права на сацыяльнае забясьпечаньне ўстанаўляецца камісіяй па назначэньню пэнсій і дапамогі. Гэтая камісія складаецца з 3-х асоб, пры гэтым пры РВК у яе склад уваходзіць: член прэзыдыуму РВК—адказны за справу сацыяльнага забясьпечаньня (старшыня) і члены: старшыня РКСТУ і прадстаўнік страхпункту, а пры гарсавеце: старшынёй зьяўляецца член прэзыдыуму гарсавету—адказны за справу сацыяльнага забясьпечаньня і два члены гарсавету, пажадана з сэкцыі сабесу.

3. Камісія ў сваёй працы кіруецца палажэньнем аб дзяржаўным забясьпечаньні, што зацьверджана ЦВК і СНК БССР (З. З. БССР—1925 г. № 45, арт. 362), інструкцыяй НК Сацыяльнага Забясьпечаньня пра ўжываньне гэтай пастановы (Бюл. СНК БССР 1927 г. № 11 (36), гэтым абежнікам, а таксама і паказаньнямі, што даваліся па пытаньнях аб пэнсіяніраваньні.

4. Пры разглядзе заяў камісія павінна кіравацца наступным:

а) дапамога непрацаздольным членам сем'яў радавога і малодшага начальніцкага складу кадравых частак РСЧА ільготнікаў даецца ў бясспрэчным парадку з дня падачы аб гэтым заявы і камісія ня мае права па матывах маемаснага становішча адмаўляць ў выдачы дапамогі, а кіруецца выключна п. 2—9, 61 „А“ інстр. НКСЗ БССР за 20/IV—1927 г. (Бюл. СНК БССР—1927 г. № 11);

б) у першую чаргу пэнсія і іншыя віды забясьпечаньня (праца ў капярацыі інвалідаў, пратэзаваньне, курортнае лячэньне) даецца маючым права на дзяржаўнае забясьпечаньне інвалідам грамадзянскай вайны, был. чырвоным партызанам і сем'ям забітых, альбо невядома дзе прапаўшых вайскоўцаў Чырвонай Арміі, а таксама сем'ям былых чырвоных партызан, памершых альбо невядома дзе прапаўшых інвалідаў грамадзянскай вайны і былых чырвоных партызан з ліку атрымліваючых пэнсію;

в) непатрэбна зьбіраць зьвестак аб стане здароўя мужчын старэйшых за 55 год, жанчын старэйшых за 50 год, дзяцей да 16 год, жанчын, што маюць дзяцей да 8-мі год узросту, бо на падставе існуючых законаў гэтыя асобы лічацца няздольнымі да працы.

г) пэнсія і дапамога выдаецца ў межах асыгнаваньняў па бюджэту на гэтую мэту паводле ставак, зацьверджаных СНК БССР з захаваньнем інструкцыі НКСЗ БССР аб зьмяншэньні разьмеру пэнсіі ў сельмясцовасьцях у адпаведнасьці з прыбыткам гаспадаркі“ (Бюл. СНК БССР—1927 г. № 11 (36);

д) сродкі, якія прызначаюцца па бюджэту на пэнсію інвалідам і на дапамогу сем'ям чырвонаармейцаў даволі значныя, і камісіі ў сваёй працы ня маюць права высоўваць матываў адказу ў вызначэньні пэнсіі недахопам сродкаў, а павінны адшукаць крыніцы забясьпечаньня (праз дачу працы, ільгот і г. д).

5. Прыём заяў ускладаецца на асобу, якая адказвае за пастаноўку справы сацыяльнага забясьпечаньня ў раёне, альбо горадзе; збор па заявах неабходных дакумантаў і тэхнічнае іх афармленьне робіцца тэхнічным апаратам раённага выканаўчага камітэту альбо гарадзкога савету.

На афармленьне справы даецца ня больш двух тыдняў.

6. Камісія зьбірaецца па меры патрэбы, але не радзей, як у 3 тыдні адзін раз.

Пастанова камісіі канчатковая. Не задаволеная пастановаю асоба на працягу месяца з моманту атрыманьня паведамленьня можа яе абскардзіць у прэзыдыум раённага выканаўчага камітэту альбо гарадзкога савету, які на першым пасяджэньні разглядае скаргу і выносіць сваю пастанову, якая зьяўляецца канчатковаю і абскарджаньню не падлягае і праводзіцца ў жыцьцё адказнаю за пастаноўку справы сацыяльнага забясьпечаньня асобаю.

*Увага.* Камісія пры назначэньні чырвонаармейскай дапамогі павінна дакладна кіравацца арт. 4, п. „а" гэтага абежніку, каб не зрабіць памылкі, якая будзе разглядацца прэзыдыумам РВК альбо гарсавету, як невыкананьне пастановы ЦВК і СНК СССР за 31/XII—1926 г. (З. З. СССР 1927 г. № 3, арт. 30).

7. У парадку нагляду незадаволеная асоба можа падаць скаргу інспэктару сацыяльнага забясьпечаньня акруговага выканаўчага камітэту, але абавязкова праз раённы выканаўчы камітэт альбо гарадзкі савет, які выносіў пастанову.

Інспэктар сацыяльнага забясьпечаньня акруговага выканаўчага камітэту павінен у трохдзённы тэрмін разглядзець скаргу і справу ў парадку нагляду і даць сваё заключэньне з пункту погляду парушэньня існуючых законаў з канкрэтнай прапановай, што трэба зьмяніць, дапоўніць, або пакінуць скаргу бяз вынікаў і даслаць яе разам з справай раённаму выканаўчаму камітэту альбо гарадзкому савету для правядзеньня ў жыцьцё. Хадайніку таксама паведамляюцца вынікі і растлумачваецца, што да зьмены становішча пытаньне разглядацца ня будзе і што паўторную заяву трэба падаваць толькі ў раённы выканаўчы камітэт альбо ў гарадзкі савет па месцу жыцьця.

8. Як правіла, прэзыдыумы акруговага і раёнага выканаўчых камітэтаў і гарадзкога савету заслухоўваюць ня менш 2-х разоў у год даклады: першы—акруговага інспэктара сацыяльнага забясьпечаньня, а астатнія адказных за пастаноўку справы сацыяльнага забясьпечаньня асоб.

9. Акруговыя выканаўчыя камітэты пры абсьледваньні працы раённых выканаўчых камітэтаў і гарадзкіх саветаў павінны даручаць інструктарам абавязкова праводзіць усебаковае абсьледваньне справы сацыяльнага забясьпечаньня.

10. Раённыя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы павінны ўскласьці на асобу, што адказна за пастаноўку справы сацыяльнага забясьпечаньня, адказнасьць за падачу інспэктару сацыяльнага забясьпечаньня акруговага выканаўчага камітэту статыстычнай справаздачнасьці ў вызначаныя НК РСІ БССР на 1929 год тэрміны:

па форме № 1 пра гарадзкую ўзаемадапамогу на 1-IV і 1-X,
„ „ № 2 (пра сем'і чырвонаармейцаў, пасядж. камісіі па назначэньню пэнсій) . . . . на 1-I,
„ „ № 3 (інвалідныя дамы мясцовага значэньня) на 1-I,
„ „ № 4 (пэнсійныя пытаньні) . . . . . . на 1-IV і 1-X.

11. Абежнік часовы і будзе існаваць да 1-X—29 г. да прыняцьця ЦВК і СНК БССР новага палажэньня аб дзяржаўным забясьпечаньні ваенных кантынгэнтаў органаў сацыяльнага забясьпечаньня.

Народны Камісар Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР *І. Масальскі.*

15 мая 1929 г.
№ 4.

## 18. Абежнік Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР

**пра тэрмін сканчэньня падліку раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі былых чырвоных партызан і сем'яў забітых, памёршых, або невядома дзе прапаўшых былых чырвоных партызан і дачы пра гэта зьвестак Народнаму Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР.**

Ня гледзячы на шэраг даручэньняў аб сканчэньні падліку былых чырвоных партызан і сем'яў забітых, памёршых, або невядомых дзе прапаўшых был. чырвоных партызан, гэта, як паказала абсьледваньне НК РСІ БССР, ня выканана да гэтага часу.

Пастановай Калегіі НК РСІ БССР за 23/V—29 г. прапанавана падлік скончыць да 1/VII—1929 г.

На падставе гэтага Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР просіць старшынь раённых выканаўчых камітэтаў і гарадзкіх саветаў зьвярнуць на гэта даручэньне асаблівую ўвагу, кіруючыся інструкцыяй НКФ БССР за 20/Х—27 г. „Пра льготы для былых чырвоных партызан і іх сем'яў" (Бюл. СНК БССР—1927 г. №—17(42) і тлумачэньне НКФ і НК Сац. Забясьпечаньня БССР—№—3113—6 за 18/VII—1928 году пра ўжываньне арт. 2 памянёнай інструкцыі, што ў выключных выпадках дазваляецца выдаваць пасьведчаньні на падставе пісьмовых паказаньняў ведаючых асоб, а за апошніх могуць быць прыняты: а) ня менш, як 2 былых чырвоных партызаны, якія маюць аб гэтым бясспрэчныя дакумэнты; б) два члены, або два кандыдаты ВКП(б); в) ня менш, як тры іншыя асобы з членаў прафэсіянальных саюзаў; г) прэзыдыум сельсавету разам з прэзыдыумам селькамітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі. Гэтым самым адносьнікам прадугледжвалася неабходнасьць, каб сьпісы асоб, якім выдадзены пасьведчаньні паказаным вышэй парадкам, агалашаліся тым ці іншым спосабам, каб даць насельніцтву магчымасьць праверыць гэтыя сьпісы.

Калі ў Вас ёсьць выпадкі выдачы пасьведчаньняў был. чырвоным партызанам і іх сем'ям бяздакумэнтальных зьвестак, то такія асобы павінны быць перарэгістраваны ў адпаведнасьці з зазначанымі вышэй паказаньнямі і, калі належнасьць да был. чырвоных партызан ня будзе цьвёрда ўстаноўлена, пасьведчаньне трэба *скасаваць*.

Паколькі абсьледваньне ўстанавіла, што не ва ўсіх раённых выканаўчых камітэтах і гарадзкіх саветах заведзены сталыя сьпісы былых партызан і сям'яў, трэба гэта праверыць і даць катэгарычны загад адказнай за гэтую справу асобе аб завядзеньні асабовага сьпісу был. чырвоных партызан і іх сем'яў з абавязковай адзнакай № і часу выдадзенага дакумэнту.

Зьвесткі аб колькасьці састаячых на падліку партызан і *асобна* сямей забітых, памёршых або невядома дзе прапаўшых партызан просьба даслаць у Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР без напамінкаў да 25—27 чэрвеня 1929 году для падачы іх НК РСІ БССР і Прэзыдыуму ЦВК БССР.

Народны Камісар Сацыяльнага
Забясьпечаньня БССР *І. Масальскі.*

24 мая 1929 г.
№ 6.

## 19. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра парадак зацьверджаньня статутаў таварыстваў і саюзаў, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў.**

**I. Агульныя палажэньні.**

1. Пастанова ЦВК і СНК БССР за 17 ліпеня 1926 г. (З. З. БССР 1926 г. № 30, арт. 110) пашыраецца на: навуковыя, літаратурныя, мастацкія, культурна-асьветныя, спартыўныя і наогул усе тыя аб'яднаньні, якія ня ставяць перад сабою мэтаў атрыманьня матарыяльных сродкаў для разьмеркаваньня іх паміж удзельнікамі, а таксама мэтаў здавальненьня эканамічных патрэб удзельнікаў.

2. Таварыствамі, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, называюцца дабравольныя аб'яднаньні грамадзян, якія для сваёй аб'яднанай дзейнасьці ставяць вызначаную сталую мэту, не зьвязаную з атрыманьнем матарыяльнай карысьці для ўдзельнікаў аб'яднаньня, ці са здавальненьнем іх эканамічных патрэб.

> *Увага.* Паводле статутаў асобных таварыстваў, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, можа дапушчацца ўступленьне ў данае таварыства побач з паасобнымі грамадзянамі таксама і юрыдычных асоб, адпавядаючых мэтам гэтага таварыства.

Юрыдычныя асобы ня могуць быць установіўцамі т-ва, а іх уступленьне ў т-ва павінна быць прадугледжана статутам т-ва з вызначэньнем узаемаадносін членаў т-ва—юрыдычных асоб з членамі т-ва—паасобнымі гр-намі. Пытаньне аб мэтазгоднасьці дапушчэньня членамі т-ва юрыдычных асоб вырашаецца тым органам, які зацьвярджае статут.

3. Правядзеньне таварыствамі, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, камэрцыйных апэрацый, вядзеньне *гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў*, і наогул ажыцьцяўленьне рознага роду гаспадарчых задач дапушчаецца толькі ў тым выпадку, калі гэтыя прадпрыемствы, камэрцыйныя апэрацыі і гаспадарчыя задачы адпавядаюць мэтам таварыства і зьяўляюцца неабходнымі ў кіраваньні яго справамі, напрыклад: выдавецтвы, лябараторыі, паказальныя станцыі, пакупка і продаж розных збораў, збыт вопытных прадуктаў для навукова-тэхнічных аб'яднаньняў і г. д. Праводзіць камэрцыйныя апэрацыі і кіраваць гандлёва-прамысловым прадпрыемствам, калі гэта не вынікае з задач таварыства, а зьяўляецца выключна крыніцай прыцягненьня сродкаў для т-ва, ні ў якім выпадку не дапушчаецца. Таму, пры зацьверджаньні статутаў, у статуце кожнага таварыства канкрэтна вызначаюцца і пералічваюцца усе дазволеныя гандлёва-прамысловыя і камэрацыйныя функцыі т-ва.

4. Саюзам называецца аб'яднаньне зацьверджаных і зарэгістраваных установіўленым парадкам двух ці больш таварыстваў, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, *сутычацца* ў сваёй дзейнасьці альбо аналёгічны па сваіх мэтах і задачах.

5. Правядзеньне камэрцыйных апэрацый і вядзеньне гандлёва-прамысловымі прадпрыемствамі тымі саюзамі, якія зьяўляюцца аб'яднаньнямі ўжо зарэгістраваных таварыстваў,—ні ў якім выпадку не дапушчаецца.

6. Заявы аб зацьверджаньні аб'яднаньняў павінны быць аплачаны гэрбавым зборам у суме 2 руб. (разгляд і адказ) кожная, за выключэньнем тых аб'яднаньняў, якія паводле існуючых законаў вызвалены ад гэрбавага збору.

7. Членамі т-ваў могуць быць усе грамадзяне, якія маюць 18 год, за выключэньнем асоб, якія пазбаўлены праў займаць пасады ў грамадзкіх арганізацыях у парадку п. „б„ арт. 34 КК БССР на працягу ўстаноўленага судом тэрміну.

Установцамі, а таксама членамі ў выбарчых выканаўчых органах т-ва ня могуць быць асобы, якія пазбаўлены выбарчых праў.

Гэтыя патрабаваньні адносна складу таварыстваў павінны ўказаць у статуце тыя органы, якія зацьвярджаюць статут.

8. Таварыствы і саюзы, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, могуць быць, як выключна мясцовага значэньня, дзейнічаючыя ў межах аднаго насельнага пункту (гораду, ці вёскі), г. зн. ня маючы падпарадкаваных сабе аддзяленьняў ці ўстаноў у іншых насельных пунктах,так і Усебеларускія, акруговыя, у залежнасьці ад таго, на абшарах якой тэрыторыі ёсьць іх адзяленьні альбо ўстановы.

9. Ніводнае таварыства ці саюз, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, ня можа пачаць сваіх дзеяньняў да зацьверджаньня яго статуту. Дзейнасьць таварыства ці саюзу да зацьверджаньня статуту можа мець толькі арганізацыйны характар (прыём членаў, выбары выканаўчага органу, распрацоўка пляну работ і г. д.).

10. Статуты таварыстваў і саюзаў, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, зацьвярджаюцца, адпаведна маштабу іх дзейнасьці, Народным Камісарыятам Унутраных Спраў БССР і акруговымі выканаўчымі камітэтамі, па прадстаўленьню акруговых адміністрацыйных аддзелаў, і раённымі выканаўчымі камітэтамі.

11. Маштаб дзейнасьці таварыстваў і саюзаў, у адпаведнасьці з арт. 8 інструкцыі, вызначаецца тэрыторыяй, на якой ажыцьцяўляецца дзейнасьць у асобе аддзяленьняў, упаўнаважаных, альбо сталых устаноў т-ва альбо саюзу, якія выступаюць ад імя аб'яднаньня, але ні ў якім разе ня месцам знаходжаньня членаў. Напрыклад, т-ва можа быць мясцовага значэньня, але мець у сваім складзе паасобных членаў, якія жывуць па-за раёнам дзейнасьці т-ва.

Акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты ня могуць зацьвярджаць статутаў тых таварыстваў і саюзаў, дзейнасьць якіх выходзіць за межы тэрыторыі данага выканаўчага камітэту, пашыраючыся хаця-б толькі часткова на тэрыторыю другога выканаўчага камітэту. Статуты такіх таварыстваў і саюзаў накіроўваюцца на зацьверджаньне ў адпаведны акруговы выканаўчы камітэт альбо ў Народны Камісарыят Унутраных Спраў.

## II. Зацьверджаньне статутаў.

12. Для зацьверджаньня статуту арганізоўваемага таварыства ўстаноўцы яго ў складзе ня менш дзесяці чалавек, а саюзу—у складзе 2-х альбо больш зарэгістраваных аб'яднаньняў, падаюць пералічаным у арт. 10 органам у 2-х экзэмплярах: а) аплачаную гэрбавым зборам і падпісаную ўсімі ўстаноўцамі заяву з просьбай зацьвердзіць праэкт статуту; б) праэкт статуту, падпісаны ўсімі ўстаноўцамі; в) пратакол сходу ўстаноўцаў і г) сьпіс установцаў па далучаемай да гэтага форме № 1.

13. Саюзы, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, для зацьверджаньня статуту саюзу падаюць: а) аплачаную гэрбавым зборам заяву выканаўчых органаў аб'яднаньняў, якія зьяўляюцца ўстаноўцамі саюзу; б) сьпісы аб'яднаньняў з паказаньнем іх назваў; в) сьпісы членаў выканаўчага органу саюзу па форме для ўстаноўцаў т-ваў; г) пратакол аб абраньні выканаўчага органу; д) даведку аб месцазна-

хаджаньні выканаўчага органу; е) пратакольныя пастановы агульных сходаў ці зьездаў аб'ядноўваючыхся ў саюз таварыстваў і пасьведчаныя натарыяльным парадкам статуты іх. Калі статуты таварыстваў апублікаваны ў Зборы Законаў і Загадаў Рабоча-Сялянскага Ураду БССР, то можна толькі даваць той нумар Збору Законаў і Загадаў Рабоча-Сялянскага Ураду, у якім апублікаваны статут.

*Увага 1.* Таварыствы, якія вызвалены ад гэрбавага збору і зьяўляюцца ўстаноўцамі саюзаў, сваёй заявы аб зацьверджаньні статуту саюзу не аплачваюць гэрбавым зборам. Заявы падпісваюцца выканаўчымі органамі таварыстваў, што яднаюцца ў саюз.

*Увага 2.* У выпадку зацьверджаньня саюзу, які яднае таварыствы, зацьверджаныя тым самым адміністрацыйным органам, якім зацьвярджаецца і саюз, копіі статутаў могуць быць і не зацьверджаны натарыяльным парадкам, бо арыгіналы іх ёсьць ў адміністрацыйным органе.

14. У праэкце статуту павінна быць паказана: а) назва таварыства, яго мэта, раён і форма дзейнасьці; б) парадак уступленьня ў члены таварыства альбо саюзу і парадак выбыцьця членаў; в) парадак і крыніцы складаньня сродкаў таварыства і парадак іх выдаткаў; г) разьмер членскіх уносаў і парадак іх уплаты; д) склад і арганізацыя распарадчых органаў, іх месцазнахаджэньне і спосаб арганізацыі; е) тэрміны і парадак скліканьня агульных распарадчых сходаў ці зьездаў; ж) парадак вядзеньня рахункаводзтва і кіраўніцтва гаспадарчаю дзейнасьцю таварыства або саюзу; з) парадак зьмены статуту; к) парадак ліквідацыі таварыства альбо саюзу.

15. Органы, пералічаныя ў арт. 10-м гэтага палажэньня, ня маюць права адмаўляць у прыёме праэктаў статутаў для іх разгляду.

16. У выпадку неабходнасьці адводу ўстаноўцаў, адміністрацыйныя органы да падачы патрабаваньня аб адводзе і зьмены ўстаноўчага складу павінны папярэдня прынцыпова выращыць пытаньне аб магчымасьці і жаданьні арганізаваць данае аб'яднаньне і толькі пасьля гэтага патрабаваць аб замене ўстаноўцаў, зазначаючы, што ў праціўным выпадку статут зацьверджаны ня будзе.

17. Статуты не павінны зацьвярджацца тады, калі мэты альбо мэтад дзейнасьці таварыства ці саюзу супярэчаць законам Саюзу ССР ці БССР. Ня могуць зацьвярджацца статуты тых таварыстваў, якія пагражаюць грамадзкаму спакою і бясьпецы, узбуджаюць нацыянальную розьнь і няпрыязьнь, маюць сваёю мэтаю вывучэньне і разьвіцьцё містыкі (аккультызму, сьпірытызму і г. д.), а таксама ставяць перад сабой неяскравыя альбо дакладна нявызначаныя мэты. У зацьверджаньні статуту можа быць адмоўлена таксама ў тым выпадку, калі таварыства альбо саюз намячаюць сабе мэты, аналёгічныя мэтам ужо зацьверджанага раней аб'яднаньня, якое дзейнічае ў тым самым раёне.

18. Органы, якія зацьвярджаюць статуты, узгадняюць у кожным паасобным выпадку пытаньне аб зацьверджаньні статуту таго ці іншага таварыства або саюзу з адпаведнымі народнымі камісарыятамі ці аддзеламі выканаўчых камітэтаў, да кампэтэнцыі якіх адносіцца галіна дзейнасьці данага таварыства ці саюзу. Па ўсіх пытаньнях аб зацьверджаньні статутаў таварыстваў і саюзаў, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, органы, якім пасланы запытаньні, даюць свае заключэньні не пазьней 2-х тыднёвага тэрміну ад дня атрыманьня запытаньня. Пасьля гэтага тэрміну органы, якія зацьвярджаюць статуты, у выпадку неатрыманьня заключэньня, не зьвязаны ў далейшым выкананьні тых ці іншых дзеяньняў.

19. У выпадку атрыманьня ад органаў кампэтэнтных у галіне мяркуемай дзейнасьці таварыства ці саюзу заключэньня аб неабходнасьці замены некаторых устаноўцаў, адміністрацыйныя органы, не адмаўляючы ў зацьверджаньні статуту, прапануюць выключыць гэтых асоб з ліку ўстаноўцаў і ўвесьці ў склад устаноўцаў новых членаў замест выключаных.

20. Для дакладнага захаваньня ўстаноўленага арт. 4 пастановы ЦВК і СНК месячнага тэрміну, адміністрацыйныя органы, запрашаючы заключэньні ў адпаведных установах, паведамляюць іх аб тым, што адказ чакаецца не пазьней, як у месячны тэрмін, пасьля якога, не атрымаўшы заключэньня, адм. органы вырашаюць пытаньне самастойна, паведамляючы аб гэтым выканаўчыя камітэты.

21. У месячны тэрмін ад дня атрыманьня праэкту статуту адміністрацыйны орган павінен выдаць устаноўцам адзін экзэмпляр зацьверджанага статуту з надпісам аб яго зацьверджаньні ці паведаміць аб адмове ў зацьверджаньні, зазначыўшы пры гэтым матывы адмовы.

22. Адначасна з зацьверджаньнем статутаў таварыстваў і саюзаў, апошнія рэгіструюцца ў тым самым органе, які зацьвярджае статут.

23. Для рэгістрацыі аб'яднаньняў адміністрацыйнымі органамі вядзецца асобная пранумараваная і прашнураваная кніга-рээстр. Гэты рээстр устанаўляецца наступнай формы: №№ па чарзе, дата зацьверджаньня статуту, назва аб'яднаньня, увага. Чарговая нумарацыя ў рэестры не перапыняецца са сканчэньнем году, а працягваецца, і па меры сканчэньня аднаго рэестру, працягваецца як наступны том. Нумарам рэгістрацыі статуту зьяўляецца парадкавы нумар рээстру.

24. Кожнае аб'яднаньне, статут якога зацьверджан даным адміністрацыйным органам, запісваецца ў рээстр.

25. Аб зацьверджаньні статуту і рэгістрацыі аб'яднаньня адміністрацыйны орган абвяшчае ў органе друку да агульнага ведама.

26. У адпаведнасьці з п. 5 пастановы ЦВК і СНК зарэгістраванае аб'яднаньне павінна аб пачатку сваёй дзейнасьці паведаміць орган, які зацьвердзіў яе статут.

27. Аддзяленьні (філіалы) зацьверджаных аб'яднаньняў да пачатку свае дзейнасьці павінны явачным парадкам зарэгістравацца ў адпаведных адміністрацыйных органах. Для рэгістрацыі гэтыя аддзяленьні павінны падаць наступныя зьвесткі:

а) копію статуту, зацьверджанага вышэйшым за іх органам, пасьведчаную ў натарыяльным парадку; б) пастанову выканаўчага органу таварыства ці саюзу аб арганізацыі аддзяленьня, в) зьвесткі аб кіруючым органе аддзяленьня таварыства ці саюзу, ці аб яго ўпаўнаважаным, усе ў двух экзэмплярах.

Адміністрацыйны орган пры рэгістрацыі аддзяленьняў правярае склад выканаўчага органу аддзяленьня. Аб рэгістрацыі аддзяленьня адміністрацыйным органам робіцца адзнака на копіях статуту і адзін экзэмпляр апошняга зварочваецца выканаўчаму органу аддзяленьня.

28. Таварыствы і саюзы, ня маючыя на мэце атрыманьня прыбыткаў, выходзячы ў сваёй дзейнасьці за межы БССР, статуты якіх зацьверджаны адпаведнымі органамі Саюзу ССР альбо саюзных рэспублік да пачатку сваёй дзейнасьці на тэрыторыі БССР павінны зарэгістравацца у Народным Камісарыяце Унутраных Спраў БССР адпаведна зацьверджаныя належнымі органамі статуты. Для гэтага гэтыя таварыствы і саюзы падаюць у Народны Камісарыят Унутраных Спраў у 2-х экзэмплярах: а) копіі статутаў (з якіх адна абавязкова павінна быць пасьведчана ў натарыяльным парадку); б) даведку аб месцазнаходжаньні выканаўчага органу таварыства ці саюзу; в) зьвесткі аб

выканаўчым органе, які знаходзіцца ў межах БССР, паводле п. 16 інструкцыі; г) зьвесткі аб аддзяленьнях таварыства ці саюзу ў БССР з паказаньнем іх месцазнаходжаньня і д) заяву аб рэгістрацыі статуту, падпісаную выканаўчым органам таварыства, ці саюзу і аплачаную гэрбавым зборам, калі таварыства ці саюз ня вызвалены ад гэтага.

*Увага.* Замест пасьведчанай натарыяльным парадкам копіі можа быць пададзен № другога аддэлу Збор Законаў Ураду СССР, у якім апублікаваны статут, пададзены на рэгістрацыю.

29. Пры рэгістрацыі ўпаўнаважанага адміністрацыйныя органы павінны патрабаваць у адным экзэмпляры завераную ў натарыяльным парадку копію статуту, копію даручэньня (даверанасьці), пастанову вышэйшага за яго выканаўчага органу аб'яднаньня аб упаўнаважаным і зьвесткі аб ім паводле літ. „г“ п. 12 інструкцыі.

Правы, якія дадзены даверанасьцю ўпаўнаважанаму, не павінны выходзіць з нормаў, вызначаных статутам аб'яднаньня.

Аб рэгістрацыі ўпаўнаважанага робіцца адзнака на арыгінале даверанасьці.

## III. Нагляд за дзейнасьцю аб'яднаньняў.

30. Нагляд за дзейнасьцю аб'яднаньняў і ўпаўнаважаных у адпаведнасьці з п. 7 пастановы ЦВК і СНК за 17/VII-1926 г. ажыцьцяўляецца органамі, якія зацьвердзілі іх статуты. Таму, усе зарэгістраваныя аб'яднаньні, іх аддзяленьні і ўпаўнаважаныя павінны штогод падаваць органу, якім зарэгістраваны іх статут, справаздачу аб сваёй дзейнасьці не пазьней двухмесячнага тэрміну пасьля справаздачнага году.

31. У штогодніх справаздачах, якія падаюцца адміністрацыйным органам, павінна быць поўнасьцю асьветлена навукова-акадэмічная, адміністрацыйна-гаспадарчая дзейнасьць аб'яднаньня, а таксама павінны быць паказаны зьвесткі аб руху грашовых сум, прыкладзен плян працы работ на бліжэйшы год і прыходна-расходны каштарыс.

32. Пры сыстэматычным невыкананьні аб'яднаньнямі патрабаваньняў аб падачы справаздачнасьці, паказанай у п. 31 інструкцыі, адміністрацыйныя органы маюць права патрабаваць аб адводзе членаў выканаўчага органу аб'яднаньня і замене іх іншымі.

33. Апроч азнаямленьня з дзейнасьцю аб'яднаньняў і іх аддзяленьняў шляхам прагляду справаздач, адміністрацыйныя органы па меры патрэбы праводзяць як непасрэдна, так і праз падпарадкаваныя ім органы абсьледаваньні на месцы, прыцягваючы ў паасобных выпадках для гэтага зацікаўленыя ўстановы і сэкцыі саветаў.

34. Адміністрацыйныя органы, наглядаючыя за аб'яднаньнямі, павінны зьвяртаць увагу на тое, каб дзейнасьць аб'яднаньняў ня выходзіла з нормаў, вызначаных уставам кожнага аб'яднаньня, а таксама не ўхілялася і не парушала дзейнічаючага заканадаўства.

35. Пры выяўленьні ў дзейнасьці таварystваў і саюзаў і іх аддзяленьняў ухілаў ад зацьверджанага статуту, альбо пры наяўнасьці момантаў, паказаных у арт. 17 інструкцыі, а таксама пры выяўленьні бязьдзейнасьці аб'яднаньняў, адміністрацыйныя органы прапануюць да пэўнага тэрміну зьнішчыць заўважаныя недахопы.

36. У выпадку ігнарыраваньня прапаноў адміністрацыйнага органу пра адхіленьне недахопаў, а таксама пры выяўленьні парушэньняў існуючых законаў, адміністрацыйныя органы ўздымаюць пытаньне аб ліквідацыі аб'яднаньня.

### Ліквідацыя аб'яднаньняў.

37. Пытаньне аб ліквідацыі аб'яднаньняў, да таго, як будзе прынята пастанова АВК па прадстаўленьню адміністрацыйнага органу, узгадняецца апошнім з зацікаўленымі ведамствамі.

38. Пастанова аб ліквідацыі таго ці іншага аб'яднаньня прад'яўляецца яго выканаўчаму органу пад расьпіску і з моманту падачы пастановы дзеяньні аб'яднаньня спыняюцца.

*Увага.* Дзейнасьць аддзяленьняў усесаюзнага аб'яднаньня спыняецца толькі па пастанове СНК БССР.

39. Скаргі, якія ўзьнікаюць у зьвязку з зацьверджаньнем статуту, альбо з пастановамі аб ліквідацыі падаюцца аб'яднаньнямі (у адпаведнасьці з п. 9. пастановы ЦВК і СНК за 17/VII-1926 г.) у Савет Народных Камісараў праз НК Унутраных Спраў.

40. Скарга на прынятую пастанову аб ліквідацыі можа быцьададзена аб'яднаньнямі праз адміністрацыйны орган, які прыняў пастанову, пры гэтым апошні, не пазьней як праз тыдзень, накіроўвае скаргу ў НК Унутраных Спраў з паказаньнем прычын прыняцьця пастановы аб ліквідацыі аб'яднаньня.

41. Пасьля зыходу тэрміну, дадзенага для падачы скаргі альбо пасьля адхіленьня хадайніцтва аб адмене ліквідацыі, утвараецца ліквідацыйная камісія з прадстаўнікоў зацікаўленых устаноў і прадстаўнікоў ліквідуемага аб'яднаньня пад старшынствам прадстаўніка адміністрацыйнага органу.

42. Уся маемасьць і сродкі аб'яднаньня, якія засталіся пасьля яго ліквідацыі, лічацца дзяржаўнымі і перадаюцца ліквідацыйнай камісіяй дзяржаўным установам, альбо грамадзкім арганізацыям, па паказаньню адміністрацыйнага органу.

43. Пасьля ліквідацыі ліквідацыйная камісія падае адміністрацыйнаму органу справаздачу аб сваёй рабоце, адначасна падаючы справы і кнігі ў скончаным выглядзе пры асобным запісе.

44. Пасьля атрыманьня справаздачы ад ліквідацыйнай камісіі адміністрацыйны орган робіць у рэестры адзнаку аб зробленай ліквідацыі і ўсе справы перадае ў архіў.

45. У выпадку ліквідацыі па пастанове самога аб'яднаньня, апошняе павінна падаць органу, у якім гэтае аб'яднаньне зарэгістравана, матывы, па якіх яно ліквідуецца і ўтварыць ліквідацыйную камісію, у склад якой абавязкова ўваходзіць прадстаўнік адміністрацыйнага органу. Маемасьць і сродкі, якія засталіся пасьля ліквідацыі, перадаюцца ў парадку арт. 42 інструкцыі.

### Выключэньне.

46. Гэтая Інструкцыя не пашыраецца на МОПР, Асоавіяхім, Таварыства „Прэч Няпісьменнасьць", „Прыхільнік Дзяцей" і шэфскія таварыствы, якія зьяўляюцца масавымі арганізацыямі і знаходзяцца пад непасрэдным веданьнем партыйных і прафэсіянальных арганізацый. Парадак зацьверджаньня статутаў і нагляду за дзейнасьцю гэтых аб'яднаньняў будзе абвешчан дадаткова.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Начальнік Адміністрацыйнай Службы
НК Унутраных Спраў *В. Уласаў.*

5 красавіка 1929 г.
№ 37.

*Дадатак.*

*Форма*

# С Ь П І С

## устаноўцаў і членаў выканаўчых органаў аб'яднаньняў, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў

| №№ па ч. | Прозьвішча, імя і імя па бацьку | Сацыяльнае становішча | Партыйнасьць | Маемаснае становішча | Адрас |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

## 20. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра перарэгістрацыю таварystваў і саюзаў, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў.

Народны Камісарыят Унутраных Спраў пастанаўляе:

1. Усе аб'яднаньні, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, дзейнічаюць на тэрыторыі БССР і зацьверджаныя да студзеня 1929 г., павінны перарэгістравацца ў шасьцімесячны тэрмін ад дня выданьня гэтай пастановы.

2. Для перарэгістрацыі аб'яднаньні павінны падаць у адміністрацыйныя аддзелы АВК альбо ў НКУС (у адпаведнасьці з маштабам дзейнасьці аб'яднаньня) наступнае:

а) зацьверджаны і зарэгістраваны адпаведным адміністрацыйным органам арыгінал статуту аб'яднаньня;

б) поўную справаздачу аб дзейнасьці за апошні год з дакладным паказаньнем: 1) колькасьці пасяджэньняў выканаўчага органу і прынятых прынцыповых рашэньняў, 2) колькасьць агульных сходаў членаў і пералік пытаньняў, якія абгаварваліся на гэтых сходах, 3) зьвесткі аб навукова-дасьледчай і літаратурна-мастацкай дзейнасьці;

в) фінансавую справаздачнасьць і сьпіс маемасьці з дадаткам актаў рэвізійных камісій;

г) сьпіс членаў выканаўчага органу з паказаньнем: грамадзкага і службовага становішча, пачынаючы з 1914 г., узросту, партыйнасьці, сацыяльнага і маемаснага становішча, судзімасьці, зьвестак аб карыстаньні выбарчымі правамі, месца пражываньня і адрас;

д) зьвесткі аб колькасьці сапраўдных, ганаровых членаў і спаборнікаў;

е) плян працы на бліжэйшы год.

3. Адміністрацыйныя органы, атрымаўшы ад перарэгіструемага аб'яднаньня матарыялы, прадугледжаныя п. 2 інструкцыі, упэўніваюцца, ці ня выходзіць дзейнасьць данага аб'яднаньня за абшары тэрыторыі данага выканаўчага камітэту і пры адсутнасьці гэтай акалічнасьці робяць перарэгістрацыю аб'яднаньня, узгадняючы пытаньне аб перарэгістрацыі з зацікаўленымі органамі.

4. У тых выпадках, калі аб'яднаньне па маштабу свае дзейнасьці выходзіць за абшары данай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, усе пададзеныя для перарэгістрацыі матарыялы на данае аб'яднаньне накіроўваюцца адміністрацыйным органам з сваім заключэньнем у вышэйшыя за яго органы.

5. Перарэгістрацыя мясцовых аддзяленьняў усебеларускіх аб'яднаньняў робіцца толькі пасьля адбыўшайся перарэгістрацыі таварыства альбо саюзу ў цэлым на працягу двухмесячнага тэрміну ад дня адбыўшайся паказанай вышэй перарэгістрацыі.

6. Для перарэгістрацыі мясцовыя аддзяленяні ўсебеларускіх аб'яднаньняў падаюць у належныя адміністрацыйныя органы:

а) копію заверанай у натарыяльным парадку даведкі аб адбыўшайся перарэгістрацыі таварыства або саюзу ў НК Унутраных Спраў;

б) пастанову цэнтральнага выканаўчага органу аб'яднаньня, якая пацьвярджае неабходнасьць існаваньня данага аддзяленьня;

в) поўную справаздачу аб дзейнасьці аддзяленьня за апошні год;

г) сьпіс членаў выканаўчага органу па форме № 1, паводле п. 12 інструкцыі.

д) зьвесткі аб колькасьці членаў сапраўдных і спаборнікаў.

7. Аб'яднаньні, якія маюць свае філіалы, павінны перарэгістраваць свае статуты з такім разьлікам, каб для іх аддзяленьняў была магчымасьць перарэгістравацца ў тэрмін, устаноўлены п. 1 гэтай пастановы.

8. Пры правядзеньні перарэгістрацыі адм. органы пераглядаюць статуты аб'яднаньняў з тым, каб яны адпавядалі арт. 3 пастановы ЦВК і СКН за 17/VII—1926 г.

9. У адпаведных выпадках органы, якія праводзяць перарэгістрацыю, могуць дэтальна азнаямляцца са справамі перарэгіструемага аб'яднаньня праз абсьледваньне яго дзейнасьці.

10. Пры правядзеньні перарэгістрацыі адміністрацыйным органам даецца права адводзіць членаў выканаўчых органаў аб'яднаньня, у адпаведнасьці з п. 16 інструкцыі.

11. У выпадку выяўленьня пры перарэгістрацыі ў дзейнасьці аб'яднаньняў нарушэньняў існуючых законаў, а таксама выяўленьня бязьдзейнасьці аб'яднаньняў, альбо існаваньня некалькіх аб'яднаньняў з аналёгічнымі мэтамі, адміністрацыйным органам даецца права адмаўляць такім аб'яднаньням у пэрарэгістрацыі і прымаць пастановы аб іх ліквідацыі, узгадняючы гэтае пытаньне з зацікаўленымі ўстановамі.

12. Пастановы аб ліквідацыі таго ці іншага аб'яднаньня, зацьверджаныя АВК, падаюцца выканаўчаму органу аб'яднаньня пад расьпіску, і з гэтага моманту дзеяньне аб'яднаньня прыпыняецца.

13. Парадак ліквідацыі аб'яднаньня і парадак абскарджаньня пастаноў аб ліквідацыі вызначан арт. арт. 37—44 інструкцыі НКУС, якімі і трэба кіравацца.

14. Кожнае перарэгістраванае аб'яднаньне павінна быць запісана ў рэестр як і новае аб'яднаньне ў парадку, прадугледжаным арт. 24 інструкцыі.

15. Аб перарэгістрацыі адміністрацыйнымі органамі выдаецца даведка аб тым, што данае аб'яднаньне перарэгістравана ў 1929 г. і запісана ў рэестр за поўным нумарам.

У выпадку замены старага статуту адміністрацыйныя органы зацьвярджаюць новы статут.

16. Усе аб'яднаньні, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбытку і якія не перарэгіструюцца ва ўстаноўлены арт. 1 гэтае інструкцыі тэрмін, падлягаюць адказнасьці ў адміністрацыйным парадку і ліквідацыі.

17. Перарэгістрацыі падлягаюць таксама дабравольныя пажарныя таварыствы ў тэрмін, устаноўлены арт. 1 інструкцыі і ў парадку, прадугледжаным гэтай інструкцыяй.

18. Масавыя дабравольныя арганізацыі таварыства „Прэч няпісьменнасьць,“ „Прыхільнік Дзяцей“, шэфскія т-вы і г. д., а таксама і іх аб'яднаньні, таксама падлягаюць пэрарэгістрацыі ў шасьцімесячны тэрмін ад дня выданьня гэтай інструкцыі, для чаго павінны падаць адпаведнаму адміністрацыйнаму органу статут альбо копію яго, зьвесткі аб выканаўчым органе таварыства альбо аддзяленьня і зьвесткі аб колькасьці членаў, якія аб'яднаюцца аддзяленьнем.

Нам. Народнага Камісара
Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Начальнік Адміністрацыйнай Службы
Адміністр. Управы НКУС *В. Уласаў.*

5 красавіка 1929 г.

## 21. Палажэньне пра камісіі па ажыцьцяўленьню дэкрэту пра адлучэньне царквы ад дзяржавы.

1. З мэтаю правільнага ажыцьцяўленьня дэкрэту аб адлучэньні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы і адналькавага вырашэньня пытаньняў, узьнікаючых пры ажыцьцяўленьні памянёнага дэкрэту, існуюць камісіі па адлучэньню царквы ад дзяржавы Цэнтральная—пры Народным Камісарыяце Ўнутраных Спраў і акруговыя—пры акруговых выканаўчых камітэтах.

2. На Цэнтральную Камісію па адлучэньню царквы ад дзяржавы і школы ад царквы ўскладаецца:

а) агульны нагляд і кіраўніцтва за правільным ажыцьцяўленьнем дэкрэту аб адлучэньні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы, распрацоўка праэктаў інструкцый, правіл, абежнікаў, загадаў ад імя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў па пытаньнях адлучэньня царквы ад дзяржавы і ўзгадненьне іх з Народным Камісарыятам Юстыцыі і іншымі зацікаўленымі ведамствамі;

б) разгляд і дача заключэньняў па статутах рэлігійных таварыстваў, груп, саюзаў рэспубліканскага альбо міжакруговага значэньня і падача гэтых статутаў на зацьверджаньне Народнага Камісара Ўнутраных Спраў, нагляд за дзейнасьцю рэлігійных таварыстваў.

в) разгляд і вырашэньне скаргаў асобных веруючых і рэлігійных аб'яднаньняў на няправільныя дзеяньні акруговых органаў улады па ажыцьцяўленьню дэкрэту пра адлучэньне царквы ад дзяржавы;

г) разгляд і дача заключэньняў для прадстаўленьня ў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, па патрабаваньню апошняга, па пытаньнях аб зачыненьні цэркваў і маліцьвенных дамоў і аб скарыстаньні іх для агульна-грамадзкіх і культурна-асьветных патрэб.

3. На акругов. камісіі па адлучэньню царквы ад дзяржавы ўскладаецца:

а) разгляд статутаў і дэкляраций рэлігійных аб'яднаньняў таварыстваў, груп і саюзаў акруговага і міжраённага маштабу і дача па ім сваіх матываваных заключэньняў з падачаю на канчатковы разгляд і санкцыю Цэнтральнай Камісіі;

б) разгляд пытаньняў аб зачыненьні цэркваў і іншых маліцьвенных дамоў на тэрыторыі акругі, як па хадайніцтву грамадзкіх аб'яднаньняў, так і мясцовых органаў улады і дача сваіх заключэньняў па гэтых пытаньнях для накіраваньня ў Цэнтральную Камісію па адлучэньні царквы ад дзяржавы;

*Увага.* Кожная пастанова аб зачыненьні цэркваў і іншых маліцьвенных дамоў можа быць ажыцьцёўлена толькі пасьля зацьверджаньня яе органамі цэнтральнае ўлады.

в) распрацоўка матываваных праэктаў пастаноў аб зачыненьні нелегальных рэлігійных аб'яднаньняў, што адчыніліся самавольна, альбо дзейнічаюць без захаваньня існуючых правілаў.

4. Цэнтральная Камісія існуе пры Народным Камісарыяце Ўнутраных Спраў і складаецца з Начальніка Адміністрацыйнае Ўправы, альбо асобы, яго заступаючай, у якасьці Старшыні Камісіі, і членаў—прадстаўнікоў ад НКЮ і НК Асьветы, а таксама ад зацікаўленых ведамстваў.

5. Акруговая Камісія складаецца з Начальніка Акруговага Адміністрацыйнага Аддзелу ў якасьці старшыні, акруговага пракурора, альбо, па яго даручэньню, аднаго з памочнікаў пракурора, прадстаўніка ад акруговай інспэкцыі асьветы, а таксама ад акруговых зацікаўленых ведамстваў.

Узгоднена: З НК Асьветы-9/XI-1928 г., № 213-14, з НК Юстыцыі 27/XI 1928 г. № 6178-1 і з Д. П. У.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

28 студзеня 1929 г. № 11.

## 22. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

**пра абвяшчэньне сьпісу хвароб, якія даюць права асобам, хварэючым імі, на дадатковы пакой ці на дадатковую жылую плошчу.**

У дадатак да інструкцыі Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў пра парадак ажыцьцяўленьня пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 23 лютага 1929 году „Пра аплату жылых памяшканьняў у гарадох БССР“ п. 15, Народныя Камісарыяты Ўнутраных Спраў і Аховы Здароўя ўстанаўляюць наступны сьпіс хвароб, якія даюць асобам, якія хварэюць імі, права на дадатковую жылую плошчу ці асобны дадатковы пакой.

Сьпіс

хвароб, якія даюць асобам, хварэючым імі, права на дадатковы пакой ці дадатковую жылую плошчу:

А. Хваробы, якія даюць права хвораму на дадатковую жылую плошчу:

1) Туберкулёз лёгкіх і іншых органаў у актыўнай форме.

2) Цяжкія расстройствы дыханьня з прычыны эмфізэмы лёгкіх і астмы.

3) Паўторныя цяжкія воганічныя расстройствы дзейнасьці сэрца.

4) Цяжарнасьць з моманту і па час аслабаненьня ад работы згодна Кодэксу Законаў аб Працы.

Б. Хваробы, якія даюць хвораму права на асобны пакой:

І. Хваробы, пагражаючыя заражэньню акружаючых.

1) Актыўныя формы туберкулёза лёгкіх і іншых органаў, з выдзяленьнем туберкулёзнай палачкі, устанаўляемай шляхам паўторнага лябараторнага кантролю,

2) Сіфіліс у першай і другой стадыі на час заразных праяўленьняў хваробы.

3) Праказа.

ІІ. Хваробы, пры каторых сумеснае жыцьцё з хворым немагчыма для акружаючых:

1) Душэўныя хваробы.

2) Цяжкія формы псіханэўроза, эпілепсія, траўматычны псіханэўроз, псіхастэнія і істэрыя, злучаныя з стратай сьвядомасьці і рэзка выяўленымі прыпадкамі.

ІІІ. Хваробы, якія не паддаюцца лячэньню, пры каторых з прычыны выклікаемай імі няпрыемнасьці, сумеснае жыцьцё з хворым немагчыма:

1) Калавы і мачавы сьвішчы, а таксама нетрыманьне мачы і кала.

2) Злаякасныя опухалі, злучаныя з значным выдзяленьнем.

3) Множныя паражэньні скуры з значным выдзяленьнем.

4) Гангрэна і абсцэсс лёгкіх.

5) Гангрэна канечнасьцяй.

6) Озэна.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў
БССР *Я. Кроль.*

Народны Камісар Аховы Здароўя
БССР *М. Барсукоў.*

## 23. Абежнік Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі

### пра ўдзел камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ў сацыялістычным спаборніцтве.

*Усім раённым і сельскім камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.*

Аднэй з галоўных задач 5-ці гадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі нашай краіны зьяўляецца сацыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі праз пашырэньне тэмпу калектывізацыі і вытворчае капераваньне сялянскіх гаспадарак з аднačасовым узмацненьнем тэмпу прадукцыйнасьці бедняцка-серадняцкіх індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Для пасьпяховага ажыцьцяўленьня гэтай задачы і глыбокага ўкараненьня сярод шырокіх колаў бедняцка-серадняцкага сялянства ўсьведамленьня мэтаў і задач сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі трэба, каб ня толькі дзяржаўныя органы праводзілі гэтую справу, але каб да гэтай вялікай будаўнічай работы былі прыцягнуты ўсе грамадзкія арганізацыі і шырокія колы сялянства.

Для выкананьня пляну індустрыялізацыі краіны, рэканструкцыі і рацыяналізацыі прамысловасьці шырока разгортваецца сацыялістычнае спаборніцтва паміж асобнымі фабрыкамі і заводамі; з кожным днём усё новыя і новыя шэрагі рабочых уступаюць у спаборніцтва; ужо ёсьць значныя дасягненьні ў палепшаньні якасьці і павялічэньні прадукцыі прамысловасьці, у падвышэньні працоўнай дысцыпліны і г. д.

За індустрыяльнымі рабочымі ў спаборніцтва выступаюць таксама рабочыя савецкіх гаспадарак і асобных сельска-гаспадарчых калектыўных аб'яднаньняў, але грамадзкія арганізацыі, працуючыя на вёсцы, і само сялянства яшчэ да гэтага часу вельмі слаба на гэта адгукнуліся.

Камітэтам сялянскай узаемадапамогі, як грамадзкай арганізацыі, якая аб'яднае бедняцка-серадняцкія масы сялянства, трэба актыўна ўзяцца за гэтую справу і ўцягнуць у яе бедняцка-серадняцкія масы сялянства. Практычна па рэканструкцыі і ўзмацненьню прадукцыйнасьці сельскай гаспадаркі неабходна правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Раённым і сельскім камітэтам праводзіць сацыялістычнае спаборніцтва паміж сабою, уцягваючы ў спаборніцтва суседнія камітэты.

За асновы спаборніцтва трэба ўзяць наступныя галіны працы:

а) грамадзкая апрацоўка камітэцкіх зямельных вучасткаў на 100% з пасевам на іх гатунковага насеньня, ужываньне ўгнаеньня; закладка на камітэцкай зямлі паказальных вучасткаў, падвышэньне ўраджайнасьці на камітэцкіх вучастках на 8 проц.;

б) арганізацыя сельска-гаспадарчых калектываў з унясеньнем з сродкаў камітэтаў паёў за бядняцкія гаспадаркі, якія ўступаюць у калектыў;

в) капераваньне беднаты на 100 проц. ва ўсе віды капярацыі, асабліва ў сельска-гаспадарчую з яе спэцыяльнымі відамі, поўнасьцю скарыстоўваючы на гэтую мэту каперацыйныя фонды, а пры недахопе апошніх выдзяляць частку сродкаў камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі;

г) стварэньне натуральнага насеннага фонду пры раённым камітэце сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ў 2.000 пудоў і пры сельскім камітэце сялянскага таварыства узаемадапамогі ў 1.000 пудоў і абмен звычайнага насеньня на гатунковае;

д) спагненьне на 100% членскіх уносаў, насенных і грашов. пазычак;

е) арганізацыя кузьня-майстэрняў, злучных пунктаў і папаўненьне маючыхся пракатных пунктаў машынамі і сельска-гаспадарчымі прыладамі; поўнае абслугоўваньне гэтымі мерапрыемствамі бядняцкіх сялянскіх гаспадарак;

ж) падвышэньне працоўнай дысцыпліны, палепшаньне якасьці выпрацоўваемай прадукцыі на прадпрыемствах камітэтаў узаемадапамогі, патаненьне прадукцыі і павялічэньне водпуску яе беднаце на ільготных умовах і дарэмна;

з) рацыянальнае скарыстоўваньне сродкаў камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі;

і) павялічэньне дапамогі беднаце, асабліва ўзваротнай і працоўнагужавой, праз арганізацыю ў кожным сельскім камітэце сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі працоўных дружын і г. д.

к) культурна-асьветная праца: дапамога школам, хатам-чытальням, дзіцячым ясьлям, вучням беднаты, арганізацыя с.-г. гурткоў, куткоў узаемадапамогі пры хатах-чытальнях, выпіска літаратуры, газэт і г. д.;

л) палепшаньне пастаноўкі арганізацыйнай працы: плянавасьць, каштарыснасьць, рэгулярныя пасяджэньні прэзыдыумаў, пленумаў, нарад, уцягненьне ў актыўную працу сельупаўнаважаных і камітэцкага актыву, правільнае вядзеньне рахункаводзтва і справаводзтва, плянавае рэвізаваньне працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі рэвізійнымі камісіямі і рэгулярная справаздачнасьць перад выбаршчыкамі;

м) уцягненьне членаў т-ваў узаемадапамогі ў кантрактацыю пасеваў.

Спаборніцтва ўстанаўляць на пэўны тэрмін, напрыклад, на паўгода ці на год, заключаючы паміж камітэтамі дагавор спаборніцтва або па ўсіх галінах пералічаных задач, або па некалькіх галінах.

2. Апроч сацыялістычнага спаборніцтва паміж камітэтамі, трэба павесьці актыўную працу па арганізацыі спаборніцтва паміж сялянствам, паміж вёскамі. Лёзунгамі па сацыялістычнаму спаборніцтву паміж вёскамі павінны быць прыкладна наступныя:

а) павялічэньне азімых пасеваў;
б) ачыстка насеньня на 100 проц.;
в) замена звычайнага насеньня на палепшанае—гатунковае;
г) уваход у калектыў ці ў таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі;
д) раньні ўздым папару і заворваньне глебы пад зяб на 100 проц.;
е) барацьба са шкоднікамі і сарнякамі;
ж) збор попелу на ўгнаеньне;
з) раньні пасеў азімага збожжа;
і) правільная апрацоўка глебы і радавы пасеў;
к) мэліарацыя сенажацяй і нізкіх месц пахаці;
л) пераход на шматпольле з засевам кармавых траў і лубіну;
м) вырашчваньне насеньня кармавых траў і лубіну;
н) своечасовая ўборка і малацьба ўраджаю;
о) закупка грамадзкага бугая;
п) арганізацыя сілосаў для кармоў для жывёлы;
р) ужываньне торпу і лісьця на ўгнаеньне;
с) працоўная дапамога беднаце ў часе ўборкі ўраджаю і пасеву;
т) правядзеньне аграмінімуму і выкананьне яго на 100 проц.;
у) кантрактацыя пасеваў.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі *Л. Жарын.*

Сакратар Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі *П. Стрыкаў.*

10 чэрвеня 1929 г.

Адказны рэдактар **І. Фрыдман.**